# ЛіМ ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

24 МАЯ 1996 г. № 21 (3845) Кошт 2 500 руб.







## З ДНЁМ НАРАДЖЭННЯ, НАСТАЎНІК!

Паслязаўтра заслужанаму артысту Беларусі, прафесару Беларускай акадэміі мастацтваў Іллю Кургану — спаўняецца 70 гадоў.

Ілля Курган — з'ява ў беларускай культуры. А калі ўлічыць, што ўсур'ёз можна гаварыць толькі пра нямногія ацалелыя на сягоннямшні дзень праталінкі сапраўднай духоўнасці, Ілля Курган — з'ява унікальная. Ён адзін з нямногіх дзеючых цяпер майстроў, якія ведаюць і спавядаюць асноватворныя прынцыпы старой (класічнай) школы выхавання Мастака-Грамадзяніна. Бліскучы майстра-выканаўца, Ілля Львовіч з'яўляецца выдатным педагогам. І тут лепшым доказам служыць асабісты прыклад Настаўніка. Яго жыццё ў мастацтве, яго мастацкі метад, яго шматлікія вучні.

У дзень 70-годдзя маэстра мы, яго вучні, схіляемся да яго падножжа (Курган жа!) з бясконцай удзячнасцю і пажаданнямі здароўя на доўгія гады.

З днём нараджэння, дарагі Настаўнік!

**Валеры АНІСЕНКА,**
**вучань І.Кургана, мастацкі кіраўнік Беларускага радыё, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі, заслужаны дзеяч мастацтваў Рэспублікі Беларусь**

# ЛіМ КОЛА ДЗЁН

***Не сказаць, каб палітычнае жыццё на Беларусі заціхла ў чаканні прэзідэнцкіх выбараў у Расіі, але набліжэнне 16 чэрвеня ўжо адчуваецца. Праўда, не столькі ў "нізах", колькі ў "вярхах". Бо і сапраўды, ад выбару Расіі залежыць будучыня не столькі Беларусі, колькі яе "вялікіх палітыкаў". Пераможа Ельцын — амаль нічога не зменіцца, а вось калі пераможа Зюганаў, альбо нехта іншы, што сёння, як і перад нейкім спартыўным спаборніцтвам, здаецца настолькі верагодным, то... Так і карціць некаторым нашым палітыкам ужо цяпер вылузацца з абоймы і падтрымаць таго ці іншага кандыдата, каб потым заявіць: "я ведаў...", "я адзіны галасаваў..." і г.д. І вылузваюцца. Забываючы пра ісціну, што палітык толькі тады застаецца палітыкам, калі сітуацыю наперад ён не толькі "пралічвае", але, галоўнае, пры гэтым не "пралічваецца"...***

## "КАМПРАМІС" ТЫДНЯ

Чарговае пасяджэнне Савета кіраўнікоў дзяржаў СНД, на думку многіх аглядальнікаў, збіралася толькі з адною мэтаю: выказаць падтрымку Барысу Ельцыну перад прэзідэнцкімі выбарамі. Гэта асабліва не ўтойвалася, тым больш, што, здавалася б, лідэры незалежных краін павінны быць непасрэдна зацікаўленымі ў перамозе якраз Ельцына. Падпісаў заяву ў падтрымку Ельцына і прэзідэнт Беларусі. Вядома, потым не абышлося без апраўданняў тыпу: "Як я мог не падпісаць..." *(БЕЛТА)*, ды рэверансаў практычна ў бок іншага кандыдата *(ОРТ, РТР)*.

## ВЫСНОВА ТЫДНЯ

Галоўны эксперт штаб-кватэры Сусветнага банка Джон Хансен, пасля амаль месяцовага вывучэння эканомікі нашай краіны, прыйшоў да высновы, што ў Беларусі маюцца ўсе драматычныя сведчанні развалу у галіне эканомікі, а па дэфіцыту гандлёвага балансу Беларусь дасягнула ўзроўню самых бедных краін свету, якія маюць вялізныя знешнія даўгі... Выйсце — замежныя крэдыты, але хто іх нам дасць. Выйсце — развіццё "малога бізнесу", але ён у нас усяляк душыцца. Выйсце, зрэшты, якраз тое, ад чаго апошнім часам наш прэзідэнт адмаўляецца: дэнацыяналізацыя, прыватызацыя і г.д. Падобная "палітыка" ўжо прывяла да таго, што Беларусь набыла ў свеце "імідж" краіны, у якую нявыгадна — небяспечна — укладваць грошы. Таму замежныя інвестыцыі складаюць зараз усяго 20 цэнтаў на аднаго жыхара Беларусі, у той час, як у іншыя краіны былога СССР — прыблізна 50 долараў, а ў краіны Усходняй Еўропы — 250 долараў на чалавека.

## ЧАКАННЕ ТЫДНЯ

Усе апошнія тыдні долар на Беларусі вісіць над прорвай: на верхняй мяжы свайго "калідора". Розніца паміж купляй і продажам часам складае ўсяго 10 рублёў. Паводле прэзідэнцкага ўказа ў гэтакім становішчы павінен ён трымацца яшчэ ажно да 1 ліпеня. Ці вытрымае?.. Банкі "працуюць" зараз толькі на скупку валюты, а "валютчыкі" даўно ўжо выйшлі за межы "калідора" і даюць за долар да 15 тысяч рублёў... У Расіі, тым часам, "калідор" адмянілі і ўвялі "слізгаючы" курс. Для нас гэтакае ж рашэнне можа азначаць толькі адно: слізганне ў прорву...

## ПУБЛІКАЦЫЯ ТЫДНЯ

"Хлусня як спосаб палітычнага выжывання" — так назвалі свой артыкул у "Народнай волі" (N 53) народны дэпутат ВС Беларусі Станіслаў Багданкевіч і палітолаг Валерый Карбалевіч, у якім прааналізавалі "кандыдацкія" і "прэзідэнцкія" абяцанні А.Лукашэнкі і супаставілі іх з нашымі рэаліямі. Выснова — у загалоўку.

## ПРАПАНОВА ТЫДНЯ

Выступаючы на сесіі Вярхоўнага Савета, дэпутат Анатоль Лябедзька ад імя фракцыі "Грамадзянскае дзеянне" прапанаваў уключыць у парадак дня пытанне аб спыненні паўнамоцтваў Вярхоўнага Савета і прызначэнні новых выбараў на снежань гэтага года, паколькі "сёння Вярхоўны Савет не выконвае ніводнай з функцый вышэйшага заканадаўчага органа краіны". Натуральна, пытанне не "прайшло": "за" прагаласавала ўсяго 27 дэпутатаў. Але, мажліва, ужо само ўзнікненне яго прымусіць дэпутатаў схамянуцца...

## ПРЫЁМ ТЫДНЯ

Для таго, каб тваю працу заўважылі і ацанілі на Беларусі, трэба каб спачатку яе заўважылі і ацанілі ў свеце... Сведчанне гэтаму — сустрэча прэзідэнта Беларусі з мастацкім кіраўніком ДАВТа Валянцінам Елізар'евым. Паралель паміж спартсменамі, якіх, пасля поспехаў на спаборніцтвах, таксама прымаў прэзідэнт, відавочная. Бярыце прыклад — літаратары ды мастакі.

## ФАКТЫ ТЫДНЯ

"Комсомольская правда" (22 траўня г.г.) паведаміла: "Па версіі Сусветнай арганізацыі аховы здароўя Беларусь уступіла ў зону генетычнай рызыкі. Беларусы п'юць па 25 літраў спіртнога ў год замест васьмі". "Звязда" ж (21 траўня г.г.) інфармавала, што "на мяжы спынення знаходзіцца адно з найбольш рэнтабельных прадпрыемстваў Магілёўшчыны — Клімавіцкі лікёра-гарэлачны завод. Прычына — затаваранасць выраблёнымі напоямі". Што, беларусы п'юць не сваю гарэлку? Ды не. Тая ж "Звязда" піша, што у Магілёве "на прылаўках сёння — цалкам магілёўскія маркі", тая ж "Комсомольская правда" паведамляе, што ў Магілёве бастуюць 50 камерцыйных магазінаў і кіёскаў, а "Свабода" ўдакладняе, што адна з прычын страйку — забарона на гандаль алкагольнымі вырабамі. Выходзіць, спойвае беларусаў беларуская ж дзяржава. Да Чарнобыля ядзернага і Чарнобыля духоўнага дадаецца і Чарнобыль алкагольны?

## САВЕТ СТВОРАНЫ!

Загадам міністра культуры Беларусі А. Сасноўскага зацверджаны склад Савета па музычным і тэатральным мастацтве. Савет створаны для каардынацыі дзейнасці Міністэрства культуры з творчымі саюзамі ды іншымі грамадскімі арганізацыямі, накіраванай на развіццё прафесійнага музычнага і тэатральнага мастацтва рэспублікі. Узначаліў новую структуру першы намеснік міністра культуры У. Рылатка, намеснікам старшыні зацверджаны начальнік аддзела музычных устаноў і цыркаў А. Кірыенка. У складзе савета — чатыры секцыі: філарманічнага і опернага мастацтва (старшыня — народны артыст Беларусі прафесар М. Дрынеўскі), харэаграфічнага мастацтва (старшыня — народны артыст СССР, прафесар, акадэмік В. Елізар'еў), эстрадна-цыркавога мастацтва (старшыня — А. Кірыенка), тэатральнага мастацтва (секцыю ўзначальвае старшыня СТД А. Дудараў).

## НА ПАКЛОН У ЖЫРОВІЧЫ



*Кожны год, 20 мая, тысячы праваслаўных паломнікаў з'язджаюцца ў Жыровіцкі манастыр, каб пакланіцца святой іконе Жыровіцкай Божай маці. Як ужо стала звычным, да святой справы далучыўся і прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка, што і засведчыў фотакарэспандэнт БЕЛТА Аляксандр Талочка.*

Фестывалі

## ТАКОГА ЯШЧЭ НЕ БЫЛО...

У свеце мастацкіх з'яў лічбы — рэч не прынцыповая. І ўсё ж: больш як два дзесяткі назваў музычна-тэатральных твораў трапілі ў праграму новага фестывалю, што ўрачыста адкрыўся 22 мая на сцэне сталічнай філармоніі. Каля паловы гэтых твораў прадстаўлена фрагментамі ў канцэртным выкананні або ў аўдыё- і відэазапісах, але граюцца і паўнавартасныя спектаклі (оперы, балеты, мюзіклы, драматычныя пастаноўкі), дзе "на першых ролях" — музыка беларускіх кампазітараў.

Першы такога кшталту фестываль, наладжаны Міністэрствам культуры Беларусі пры ўдзеле творчых саюзаў, атрымаў немудрагелістую, але салідную назву: "Музыка і тэатр". Аказалася, ёсць што паказаць, пра што пагаварыць: першая ж канцэртная праграма нагадала старонкі нашай музычна-тэатральнай класікі — оперныя ды балетныя творы Я. Цікоцкага, Ю. Семяняні, В. Залатарова, А. Багатырова, Г. Вагнера... На афішы ДАВТа — адзначаная Дзяржаўнай прэміяй опера У. Солтана "Дзікае паляванне караля Стаха" і зусім свежы спектакль "Візіт Дамы" на музыку С. Картэса, ганараваны міжнароднымі лаўрамі балет В. Елізар'ева на музыку А. Мдзівані "Страсці" ("Рагнеда") і прэм'ера "Кругабегу" А. Залётнева ў харэаграфічным увасабленні Ю. Чурко ды В. Іванова. Купалаўцы згадваюць "Тутэйшых" з музыкай У. Кур'яна, адзначанай Дзяржаўнай прэміяй, тэатр музычнай камедыі — "Мільянерку" Я. Глебава, Рускі тэатр — адну з апошніх работ Б. Луцэнкі, натхнёную літургічнымі творамі С. Бельцюкова і А. Залётнева ў выкананні хору "Санорус" пад кіраўніцтвам А. Шута... Што яшчэ казаць? Трэба прыходзіць ды слухаць!

**С. Б.**

## ШТО ДА МАСТАЦКАЙ ПРАГРАМЫ...

Сёння распачынаецца самы нязвычайны, а мо й няпэўны (у сэнсе фінансавання, складу ды афішы) кінафестываль "Залаты Віцязь". Пэўнае пакуль што, бадай, толькі адно — прывітанне прэзідэнта А. Лукашэнкі ўдзельнікам V Міжнароднага кінафестывалю славянскіх і праваслаўных народаў у г. Мінску. "...У нас было і ёсць вялікае кіно, вялікія рэжысёры і акцёры. Іхнія імёны ўжо назаўжды ўвайшлі ў сусветны фонд кінамастацтва", — канстатуе прэзідэнт Беларусі. Патрыярху Маскоўскаму ды Усяе Русі Алексію, у сваю чаргу, "хочацца пажадаць... трымацца у вашай рабоце не столькі курсу на адну толькі пастаноўку праблем — сумны досвед паказвае, што такі падыход фармуе, урэшце, толькі пачуццё безнадзейнасці ды роспачы ў людзей, — колькі, перадусім, указання на станоўчыя шляхі іхняга вырашэння". Застаецца дадаць, што фестываль распачынаецца ў дзень святых Кірылы ды Мяфодзія, а літургію ў гонар іх, роўнаапостальных, разам з малебнам пра "Залаты Віцязь" будзе служыць мітрапаліт Мінскі ды Слуцкі Філарэт. На першы — сёняшні — дзень прызначаны хросны ход, слова прэзідэнта Беларусі, слова прэзідэнта "Залатога Віцязя", вынас ды ўздым сцяга, вітанне мітрапаліта, уручэнне медалёў імя С. Бандарчука...

Усё, што датычыць мастацкай, творчай праграмы фестывалю, аргкамітэт абяцае паведаміць у самы бліжэйшы час.

**Ж. Л.**

Вечарыны

## ТВАРЫЎ, БАГАТВАРЫЎ, ВЫДАВАЎ...

Гэтак дакладна вызначыў сутнасць таго, што рабіў у жыцці і творчасці Барыс Сачанка, А.Вярцінскі, зазначыўшы, што дзякуючы Барысу Іванавічу надзіва шмат зроблена дзеля беларускасці і ў імя беларускасці, дзеля нацыянальнага Адраджэння. Ён тварыў вельмі плённа і натхнёна, выдаючы кнігу за кнігай. Ён багатварыў кнігу, друкаванае слова, ледзь не пераўтвараючы іх у святыню, пацвярджэнне чаму — і унікальная асабістая бібліятэка Б.Сачанкі, што налічвае не адну тысячу тамоў, прытым сярод іх нямала рэдкіх выданняў. А яшчэ Б.Сачанка кнігу выдаваў. І працуючы ў выдавецтве "Мастацкая літаратура", але асабліва на пасадзе галоўнага рэдактара выдавецтва "Беларуская энцыклапедыя" імя Петруся Броўкі, дзе дзякуючы яго апантанасці, улюбёнасці ў кнігу за кароткі час пабачылі свет многія энцыклапедыі і энцыклапедычныя даведнікі, якімі не можа не ганарыцца нацыя.

А сказаў пра гэта А.Вярцінскі на вечарыне "Горкая радасць вяртання", прысвечанай памяці лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Якуба Коласа і лаўрэата Літаратурнай прэміі імя Івана Мележа Б.Сачанкі, што праходзіла ў мінулую пятніцу ў Доме літаратара. У зале сабраліся тыя, каму дарагія імя і памяць гэтага выдатнага грамадскага дзеяча, пісьменніка, чалавека.

Адкрыў і вёў вечарыну дырэктар выдавецтва "Мастацкая літаратура" С.Андраюк. І сам Серафім Антонавіч, і тыя, хто выступілі пасля яго, а гэта намеснік дырэктара Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук Беларусі У.Гніламёдаў, дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь П.Краўчанка, той жа А.Вярцінскі, адзначаючы важкасць творчых набыткаў Барыса Іванавіча, запынялі ўвагу і на тым, што іх асабіста лучыла з Б.Сачанкам, што яшчэ пры жыцці яго дазваляла пераконвацца, наколькі гэта цудоўны і неардынарны чалавек і пісьменнік.

М.Мятліцкі нагадаў пра адну з паездак разам з Б.Сачанкам і М.Лужаніным па грыбы і прачытаў свой новы верш "Салёныя рыжыкі", прысвечаны памяці Барыса Іванавіча. Дачка Б.Сачанкі паэтэса С.Явар пазнаёміла прысутных са сваёй паэмай "Слова пра бацьку", у якой паяднаны шчымлівы боль па незваротнай страце і гонар за тое, якім выдатным чалавекам ён быў.

Уважліва слухалі прысутныя жонку Б.Сачанкі. Тамара Андрэеўна прыгадала нямала момантаў з іх сумеснага жыцця, і дзякуючы яе шчырасці, непасрэднасці, адкрытасці вобраз Б.Сачанкі, найперш чалавека, набыў яшчэ больш выразную акрэсленасць. Адначасова тыя, хто сабраўся ў зале, змаглі як бы зазірнуць і ў яго пісьменніцкую лабараторыю.

І, канечне ж, у час вечарыны гучалі творы пісьменніка, выконваліся народныя песні, чулася сцішана-журботная музыка, што і нагадвала прысутным, што гэта і на самай справе "горкая радасць вяртання", бо не было ў зале таго, каму яшчэ жыць бы ды жыць, тварыць і тварыць...

●

15 мая, у дзень 60-годдзя Барыса Іванавіча, яго родныя і блізкія, сябры, прадстаўнікі выдавецтва "Беларуская энцыклапедыя" імя Петруся Броўкі, Саюза беларускіх пісьменнікаў, прыхільнікі таленту пісьменніка наведалі магілу Б.Сачанкі, на якую ўсклалі жывыя кветкі.

**Н.К.**

ДА КАГО Ў АБДЫМКІ?

# РАСІЯ, ДА ЗБРОІ?

## ВОРАГІ ЎЖО "ПА ЎСІМ ПЕРЫМЕТРЫ ГРАНІЦ"

Як вядома, нядаўна сумеснымі намаганнямі ўсіх галін улады прыняты закон аб прадаўжэнні службы ў арміі з паўтара да двух гадоў. Акрамя таго, людзі, што скончылі вышэйшыя навучальныя ўстановы, за невялікім выняткам абавязаны цяпер год праслужыць у арміі. Такога не было ў Расіі з самага канца вайны з Германіяй!

Цікава, як выглумачвае неабходнасць такога павелічэння колькасці прызыўнікоў і часу службы міністр абароны Грачоў. Ён параўноўвае, колькі салдат прыпадае на кіламетр граніцы ў Расіі і заходніх краінах — ЗША, Германіі і г.д., і высвятляецца, вядома, што менш за ўсё ў Расіі. Як жа інакш, калі працягласць граніц у Расіі ў некалькі разоў большая, чым у ЗША. Па гэтай логіцы і армія ў Расіі павінна быць адпаведна ў такую ж колькасць разоў большая!

Сёння ў сілавых міністэрствах Расіі налічваецца больш за 7,5 мільёна чалавек. У СССР, для параўнання, было 8 мільёнаў пры тым, што колькасць насельніцтва была ў два разы большая! Важна, што ва ўнутраных войсках МУС служыць больш людзей, чым у сухапутных войсках Міністэрства абароны. У 1,5 раза вырасла ў параўнанні з савецкім часам колькасць міліцыі. Тлумачыцца гэта неабходнасцю ўзмацнення барацьбы са злачыннасцю. Але калі раней з гэтай мэтаю выкарыстоўвалася дзве трэці колькаснага складу міліцыі, дык зараз — толькі адна шостая частка! Астатнія вартаўнікі парадку — рэзерв для забеспячэння бяспекі ўлады на выпадак "масавых беспарадкаў" і для аховы дзяржустаноў, вышэйшых чыноўнікаў і г.д. Такім чынам, як мінімум кожны другі штык скіраваны ўнутр краіны.

Мілітарызацыя сказваецца і ва ўзмацненні "флангаў" на поўдні і паўночным захадзе Расіі больш, чым тое належыць па дамове аб скарачэнні звычайных узбраенняў і армій, і ў наладжванні вытворчасці новага пакалення ракет і цяжкіх атамных крэйсераў. Сімптаматычнае і выглумачэнне неабходнасці ўзмацнення "абароны" ў вуснах таго ж Грачова. **"Па ўсім перыметры нашых граніц,** — гаворыць ён, — **у сумежных краін маюцца да Расіі тэрытарыяльныя прэтэнзіі, а ад такіх прэтэнзій да вайны, як вядома, адзін крок!"**

Тут міжволі згадваецца славуты прапагандысцкі пастулат царскай арміі. "Якія ёсць у Расіі знешнія ворагі?" — пытаецца афіцэр у салдата, і салдат павінен быў адказваць: "Усе сумежныя краіны!" (Пасля гэтага ішло пытанне: "А хто ёсць ворагі ўнутраныя?" Адказ: "Жыды, палякі і студэнты!")

А вось як тлумачыў неабходнасць мець магутны флот і вялікія ўзброеныя сілы ў Балтыйскім моры і ў Калінінградскай вобласці былы міністр замежных спраў, "ліберал" Андрэй Козыраў: **"Яны неабходныя для абароны вобласці ад намаганняў Германіі і іншых краін"**.

Выпадкова я натыкаюся (летам 1995 г.) на тэлевізійную перадачу Цэнтральнага ТБ (ГРТ), у якой гаварылася аб тым, што "экспансія можа спрыяць наладжванню стабільнасці ў рэгіёне". Аказваецца, гаворка ішла аб імкненні царскай Расіі захапіць Басфор і Дарданелы, пралівы з Чорнага мора ў Міжземнае. Расія ўжо рыхтавалася гэта зрабіць у 1917 годзе, "але перашкодзіла лютаўская рэвалюцыя". Калі б гэта ўдалося тады Расіі, захапіць пралівы, разважаў нейкі ваенны гісторык, то гэта прынесла б стабільнасць усім краінам рэгіёна.

Такой прапаганды не было ад часоў смерці Сталіна!

На вялікадзяржаўную мілітарызацыю свядомасці людзей была скіравана і ўся пышная і даражэзная цырымонія святкавання 50-годдзя "перамогі рускай зброі" у вайне з Германіяй. Першым элементам у параўнанні з камуністычным часам стаў актыўны ўдзел у гэтых урачыстасцях іерархаў праваслаўнай царквы і ўкараненне праваслаўнай сімволікі разам з камуністычна-рэвалюцыйнай.

Кіраўнікі праваслаўнай царквы, верныя сваёй традыцыі, падключыліся ўва ўсім памагаць кесару, уладу маючым, у тым ліку і ў мілітарызацыі краіны. Улады прадаўжаюць тэрмін воінскай службы і вядуць кампанію супраць маладых людзей, якія ўхіляюцца ад прызыву, і кіраўнік праваслаўнай царквы патрыярх Алексій Другі выступае са зваротам **"да праваслаўных юнакоў-прызыўнікоў"**, заклікае іх **"паслужыць Радзіме, абараняючы яе ад** (УВАГА!) **ворагаў знешніх і ўнутраных"**.

**"Армейская служба,** — угаворвае патрыярх, — **будзе спрыяць духоўнай (?) сталасці". "Ваша знаходжанне ў арміі будзе спрыяць яшчэ больш глыбокаму ўзаемадзеянню з царквою"**. І г.д. ("Известия", 12.10.95).

Між іншым, тое, што ў расійскай арміі служаць людзі розных нацыянальнасцей, розных канфесій і рэлігій, рускае ваеннае кіраўніцтва не турбуе.

У дзень 65-годдзя Ельцына (1.2.96) Алексій II, уручаючы прэзідэнту ў якасці падарунка ад царквы залатую статуэтку князя Уладзіміра Кіеўскага, хрысціцеля Русі, сказаў: "Пры вас ажыццяўляецца другое хрышчэнне зямлі рускай".

Што сіе азначае — загадка. Але відавочна іншае: праваслаўе, густа замешанае на вялікадзяржаўі і шавінізме, ідзе зараз на змену інстытуту камуністычных прапагандыстаў і камуністычнай ідэалогіі.

Мілітарызацыя Расіі праяўляецца і ў пазіцыі ўсіх галін улады па адносінах да вайны ў Босніі. У СМІ вядзецца прапаганда ў падтрымку сербаў і супраць НАТА, ЕС, ААН. Сербы — ахвяра агрэсіі з боку мусульман і харватаў, і ўвесь свет супраць сербаў. Кульмінацыяй гэтай кампаніі была істэрычная рэзалюцыя Дзярждумы ў момант налётаў авіяцыі НАТА на пазіцыі баснійскіх сербаў. Па гэтай рэзалюцыі, нагадаю, Дума патрабавала, каб урад Расіі ў аднабаковым парадку неадкладна адмяніў блакаду супраць сербаў і Югаславіі, пачаў забяспечваць іх зброяй, увёў блакаду Харватыі і г.д. ажно да пагрозы аказаць узброеную падтрымку сербам.

І гэтая рэзалюцыя была прынята пераважнай большасцю галасоў! "За" галасавалі і такія "заходніцкія" фракцыі, як "Яблык" Яўлінскага і "Дэмакратычны выбар Расіі" Гайдара.

Не аслабла прасербская прапаганда ў СМІ і пасля заключэння дэйтанскіх пагадненняў.

І гэта прытым, што большасці насельніцтва краіны не да сербаў! І пра старую дружбу Расіі з Сербіяй ніхто ў народзе нічога не памятае і не ведае. З той пары ў Расіі адбылося гэтак шмат падзей і перамен, што тыя часіны цалкам забыты. Успомніла пра іх толькі хворая, трацячая розум інтэлігенцыя. А наменклатура абрадавалася нагодзе адцягнуць увагу народа ад яго цяжкай долі і стварыць зноў вобраз ворага ў абліччы заходніх краін.

Антызаходняя істэрыя выбухнула стрэлам з гранатамёта па будынку пасольства ЗША і дэманстрацыяй каля гэтага пасольства ў духу самых чорных часін "халоднай вайны". Але з прымешкам абсурднасці сённяшняга часу і характэрнай для яго перавернутасцю ўсіх паняццяў. На дэманстрацыі плакат "ЗША логава фашызму" неслі побач са сцягам РНА Баркашова, на якім красавалася стылізаваная свастыка!

Істэрыя нагнятаецца і з выпадку імкнення краін Усходняй Еўропы і Балтыі ўвайсці ў НАТА. Падаецца гэта як намер НАТА падвесці свае войскі "да рубяжоў нашай Радзімы"! Пра тое, што гэтага хочуць самі былыя саюзнікі Расіі, нахабна замоўчваецца! Расія палохае сваёй вялікадзяржаўнай палітыкай сваіх былых сатэлітаў, і іх намаганні знайсці абарону ў НАТА выдае за агрэсіўнасць апошняга! Апафеозам антынатаўскай істэрыі ўяўляецца заява Ельцына аб тым, што "пашырэнне НАТА на ўсход запаліць пажар вайны ва ўсёй Еўропе!"

Назіраючы за перадачамі Цэнтральнага ТБ, разумееш, што ў галіне прапаганды ўжо пачата новая "халодная вайна". Куба зноў называецца "востравам свабоды" і рашуча асуджаюцца правакацыі ЗША супраць яе.

Унутраную сувязь з антызаходняй палітыкай мае і рашэнне МУС правесці новы абмен замежных пашпартоў па новых правілах, такіх ускладнёных, што для шараговых грамадзян атрыманне загранпашпартоў зробіцца амаль немагчымым. "Расія ўводзіць жалезную заслону!" — пад такою назваю змясціла аб гэтым матэрыял "Независимая газета" (22.11.95).

Улады Расіі, як бачым, няўхільна ідуць да таго, каб зноў стварыць у краіне псіхалогію абложнай крэпасці "па ўсім перыметры граніц"...

**Вадзім БЕЛАЦАРКОЎСКІ**

*("Литературная газета", 27.111.96)*

Пошта

# "ХАТА КРАЎЦА". ЦІ БЫЦЬ ЁЙ У ЗАСЛАЎІ?

Я думаю, што мала хто з вас, паважаныя чытачы, чуў пра такі музей, як музей кравецтва. Бо такіх музеяў, наколькі я ведаю, у Беларусі пакуль не існуе. А вельмі хацелася б мець такую цікавую экспазіцыю. І падставы для яе стварэння ёсць. Бо кравецкая справа ў Беларусі мае глыбокую гісторыю. Хаця мода ў канцы XIX ст. прыходзіла з Расіі, а дакладней, з Санкт-Пецярбурга, беларускае адзенне адрознівалася ад тых касцюмаў, якія можна было ўбачыць у тагачасных часопісах. Характар касцюма — яго прыналежнасць да саслоўя. Напрыклад, існавала сялянскае адзенне, гарадское і местачковае. Асаблівую цікавасць выклікае адзенне местачкоўцаў канца XIX — пачатку XX стагоддзяў, бо яно нясе на сабе адбітак і гарадскога і сялянскага побыту. Тым болей, што насельніцтва ў мястэчках было вельмі разнастайным па нацыянальным складзе і веравызнанні, што таксама адбівалася на местачковай модзе.

Галоўным "мадэльерам" у мястэчку быў кравец ці мадыстка, якія мелі дазвол на выраб адзення з губеранскай управы. У Заслаўі было некалькі краўцоў, якія выраблялі адзенне для жыхароў мястэчка і прыезджых з суседніх хутароў і вёсак. Увогуле, кравецкая справа ў Заслаўі ў пачатку XX ст. была на даволі высокім узроўні. Аб гэтым расказала нам дачка аднаго з краўцоў Крулікоўская Алена Феліксаўна, 1909 года нараджэння, якая, на жаль, памерла колькі гадоў назад. Яе бацька, Фелікс Астроўскі, быў адным з лепшых у Заслаўі краўцом. Ён шыў адзенне для заможных жыхароў мястэчка і навакольных вёсак. Працаваў у сваёй хаце і арандаваў у памешчыка Пратасевіча кавалак зямлі. Падчас 1-ай сусветнай вайны Фелікс Астроўскі быў прызваны ў войска і загінуў на фронце. Яго сям'я засталася жыць у хаце, пабуданай бацькам яшчэ ў канцы мінулага стагоддзя. Можна сказаць, што даследчыкам культуры пашанцавала, бо і сёння гэта хата захавалася. Гэта дом N 18 па вуліцы Рабочай. У ёй жыве ўнучка Ф.Астроўскага Яніна Мікалаеўна. Вонкава хата захавалася цалкам, у інтэр'еры ёсць невялікія змяненні, але трэба адзначыць, што ў хаце захавалася мэбля, інструмент і 2 швейныя машыны, на якіх працаваў кравец. Ёсць і некалькі касцюмаў, пашытых майстрам.

У фондасховішчах Дзяржаўнага гісторыка-культурнага запаведніка "Заслаўе" захоўваецца шмат рэчаў, якія датычацца кравецкай справы, а таксама ёсць на захаванні касцюмы канца XIX — пачатку XX ст. Гэта дае падставу для стварэння ў Заслаўі музея "Хата краўца". У гэтым музеі можна будзе пабачыць інструменты, якімі карыстаўся майстар у канцы XIX — пачатку XX ст., адзенне, вырабленае для местачковых жыхароў, іншыя унікальныя экспанаты. Але каб мы паказалі толькі рэчы, гэта быў бы сумны музей. Неабходна, каб наведнікі ўбачылі побыт майстра-краўца таго часу, і тэхналогіі, якімі ён карыстаўся. Для гэтага неабходна стварыць музей-майстэрню, так званы "жывы музей", у якім наведвальнік зможа ўбачыць працэс стварэння вырабу, сам зможа паспрабаваць у працы інструменты. Неабходна, каб музей стаў не толькі сховішчам каштоўнасцяў, але і актыўна ўплываў на жыццё, у нейкім сэнсе рабіў яго лепшым. Для гэтага распрацавана праграма, якая дазволіла б наведвальнікам адчуваць сябе ў музеі не госцем, а гаспадаром. Для ажыццяўлення такой праграмы неабходна ў комплекс "Хата краўца" ўключыць: школу-студыю, дзе жадаючыя змогуць навучыцца кравецкай справе, і "салон-мадысткі", інтэр'ер якога павінен адпавядаць інтэр'еру пачатку XX ст. У салоне можна будзе замовіць сучасную сукенку, альбо касцюм у стылі "рэтра".

Але, на жаль, усе гэтыя добрыя намеры пакуль застаюцца толькі намерамі. Ужо не першы год супрацоўнікі гісторыка-культурнага запаведніка задаюцца пытаннем, ці быць у Заслаўі музейнаму комплексу "Хата краўца". А праблема адна — грошы. Гісторыка-культурны запаведнік не мае сродкаў нават на тое, каб выкупіць дом N 18 па вуліцы Рабочай, які так неабходны, каб пакласці пачатак стварэнню першай экспазіцыі музея кравецтва. Не выказваюць цікаўнасці да справы і мясцовыя ўлады. Я спадзяюся, што новы мэр горада Заслаўя Тамара Аляксандраўна Чарнышова зразумее нашы пакуты і дапаможа з выдзяленнем прыстойнага жылля для ўнучкі краўца, якая зараз адна пражывае ў прыгаданай хаце. Стварэнне музейнага комплексу "Хата краўца" ў Заслаўі будзе садзейнічаць пашырэнню культуры і ўмацаванню дабрабыту мясцовага насельніцтва.

І яшчэ, як кіраўнік праекта "Хата краўца", я хачу звярнуцца да бізнесменаў, кіраўнікоў банкаў, устаноў і ўвогуле да ўсіх людзей, неабыякавых да лёсу нашай краіны і яе гісторыі, якія могуць зрабіць сваю ўнёску ў росквіт старажытнага горада. Дапамажыце, шаноўныя, у высакароднай справе адраджэння беларускай культуры! Бо будзе вельмі крыўдна, калі з-за таго, што гісторыка-культурны запаведнік не мае сродкаў, знікне унікальны помнік матэрыяльнай культуры — "Хата краўца", і нашы дзеці і ўнукі не прачытаюць цікавую старонку нашай гісторыі.

**Інэса КАЗАЧЭНКА,**
**ст. навуковы супрацоўнік**
**ДГКЗ "Заслаўе"**

Варункі

# ЗНАЁМЫЯ ВЕРШЫ

**У канцы 1995 года з'явіўся ў кнігарнях першы том поўнага збору твораў Янкі Купалы. У ім выдрукаваны вершы, якія паэт напісаў у 24-25 гадоў свайго жыцця. Вершы ўвогуле знаёмыя, але, прачытаўшы іх наноў, адзначаеш надзвычайную сталасць думкі паэта для такіх гадоў:**

**Я буду маліцца і сэрцам і думамі,**
**Распетаю буду маліцца душой,**
**Каб чорныя долі**
**з мяцеліцаў шумамі**
**Ўжо больш не шалелі**
**над роднай зямлёй.**

**Гэтак пісаў Купала, думаючы за ўсю Беларусь, а сённяшнія ягоныя аднагодкі пакуль што яшчэ грукочуць у тазік. Моладзь сёння не надта хоча сталець і браць хоць якую там адказнасць на свае плечы.**

**Яшчэ што ўражвае ў ягонай паэзіі бясконца і штораз — багацце і нязмушанасць купалаўскай мовы, якую ён выслухаў у падмінскіх, лагойскіх ваколіцах, акумуляваў і заспяваў на ёй, паказаўшы, што яму ўсё даступна. Якая напеўная магутнасць, якая веліч завініць у Купалавых радках:**

**Іграюць сурмы баявыя,**
**Віхор разносе іхні звон,**
**І песні дзіўныя такія**
**Ад іх лятуць да ўсіх старон.**

**Які дзіўны, старасвецкі і таямнічы свет беларушчыны раскрывае ён! Яшчэ не прайшло і стагоддзя, а ад гэтага свету засталіся адныя аскепкі.**

**"Ворагамі беларушчыны" Купала называў тых асоб, якія выступалі супраць беларускай мовы ці зневажалі яе. Пагодзімся, што прамінулы час не змяніў гэтае азначэнне, хоць бы і "ворагі", узгадаваныя янычарамі, нараслі спаміж свайго народа.**

**Гладка чытаюцца польскія вершы Янкі Купалы. Яны неяк больш стасуюцца з ягоным узростам. Беларускія вершы паэта — неўтаймаваны выбух энергіі, польскія — руплівыя вучнёўскія практыкаванні.**

**Сярод знаёмых вершаў ёсць адзін і незнаёмы. Верш "Kobiecie" раней пры саветах не друкаваўся. Чаму? Бо галоўны герой яго — беларускі яўрэй. А гэта ж у нас заўсёды была далікатная тэма.**

**Будзем чытаць Купалу. Нам не стае слоў прарока. Ну не ўчарашнія ж недавучкі будуць вучыць нас жыць.**

**Толькі зараз дабудавалі другую вежу ў Радашковіцкім касцёле, дзе некалі хрысцілі Купалу. Для гэтага спатрэбілася больш за пяцьдзесят гадоў. Колькі ж гадоў спатрэбіцца нам, каб дабудаваць будынак беларушчыны, пачаты ў свой час Купалам і ягонымі паплечнікамі?**

**Спраўдзім у нашага прарока, а ён сказаў:**

**Пакіньма напуста**
**на лёс свой наракаць,**
**Скрозь слёзы скаргі сеяць**
**на зямлі, —**
**Нам трэба жыць**
**і долю папраўляць,**
**Каб нас патомкі**
**з часам не клялі.**

**Алесь БЯЛЯЦКІ**

ЛіМ
ЧАСАПІС



## ЧАРНОБЫЛЬСКАЯ ТРАГЕДЫЯ — ВАЧАМІ ДЗЯЦЕЙ



**Многія з юных мастакоў і не ведаюць, як гэта адбылося — ім не больш за дзесяць гадоў. Але на выстаўку дзіцячага малюнка ў Магілёўскім абласным Палацы піянераў прадставілі работы дзеці з усіх раёнаў вобласці, якія займаюцца ў студыях выяўленчага мастацтва.**




*На здымках: члены студыі выяўленчай і прыкладной дэкаратыўнай творчасці Палаца піянераў і яе кіраўнік Ірына Сталярова рыхтуюць выстаўку да экспазіцыі.*

*Работы юных магіляўчан.*

*Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БЕЛТА*

## РАЗ УСМЕШКА, ДВА ЎСМЕШКА...

**Гэтым разам гасцямі тэатра юнага гледача былі не проста школьнікі, а выхаванцы школ-інтэрнатаў Мінскай вобласці. Тут прайшла дабрачынная акцыя, прысвечаная 10-годдзю чарнобыльскай катастрофы. У фае дзяцей сустракалі казачныя персанажы — кракадзіл Гена, кот Леапольд... Тут грала музыка, ладзіліся розныя гульні, віктарыны. Не забыліся дарослыя і на падарункі.**

**Працяг свята адбыўся ў глядзельнай зале. Дзеці сустрэліся з вядомым дзіцячым пісьменнікам і драматургам А. Вольскім. А юныя акцёры тэатра-студыі Л. Горцавай пазнаёмілі гасцей з тым, як жывуць у гэты скрушны час іх аднагодкі. Гучалі вытрымкі з лістоў дзяцей, што пацярпелі ад Чарнобыля.**

**Канечне, пасля гэтага пасур'ёзнелі твары. Але дзеці ёсць дзеці... Пачаўся спектакль "СуперША" (пастаўлены акцёрам тэатра Ю. Вутам па сваёй п'есе) і сум як рукой зняло...**

## БАЛЕТНЫЯ ВЕСЦІ... "ВЕСТНИКА"

**Беларускі балетны часопіс "Вестник", як вядома, выходзіць перыядычнасцю чатыры выпускі ў навучальны год, часам — са спазненнем. Тым не менш чаканая сустрэча — заўсёды свята. Пацвярджэнне таму і пяты з часу выхаду "Вестника" нумар.**

**Пад рубрыкай "Беларуская Тэрпсіхора" ў ім змешчана паведамленне пра чарговы фестываль "Я люблю балет". У раздзеле "У Вялікім тэатры балета Беларусі" апублікавана карэспандэнцыя "Занатаваныя імгненні танца", у якой расказваецца пра выпушчаныя тэатрам пры дапамозе Белзнешэканомбанка набор каляровых насценных календароў і паштовак, аддрукаваных у ЗША. Тут жа Т. Мушынская ("Лепшая ў тэатры Адэта...") знаёміць з артысткай балета С. Гарбуновай.**

**Ю. Чурко ("Палюбіце балет!") рэцэнзуе кнігу Т. Мушынскай "Гаркавы смак ісціны", што выйшла ў "Бібліятэцы часопіса "Маладосць".**

**Выкладчык харэаграфічнага танца Дзяржаўнага харэаграфічнага вучылішча Рэспублікі Беларусь П. Сталінскі выступае з артыкулам "Роздум настаўніка танцаў".**

**І, як заўсёды, "Вестник" не абмяжоўваецца беларускімі матэрыяламі.**

## УШАНУЕМ БАГДАНОВІЧА

**У суботу 25 мая а 12 гадзіне адбудзецца ўскладанне кветак да помніка Максіма Багдановіча ў Мінску. Запрашаюцца ўсе аматары паэзіі класіка беларускай літаратуры.**

# РАЗВАЖЛІВА, ДАКЛАДНА, ЗРАЗУМЕЛА

## АБ БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ

26 студзеня 1990 года ў Беларусі адбылася вялікая падзея, якую, на мой погляд, можна аднесці да гістарычных падзей нашай краіны. Менавіта ў гэты дзень Вярхоўны Савет БССР 11 склікання прыняў Закон "Аб мовах у Беларускай ССР". Хачу падкрэсліць, што гэты закон быў прыняты дэпутатамі, якія абіраліся ў Вярхоўны Савет у 1985 годзе, пад непасрэдным кіраўніцтвам КПБ, і яны зацвердзілі ў другім артыкуле закона, што **"...дзяржаўнай мовай Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі з'яўляецца беларуская мова"**.

У народзе кажуць, што, каб крыху заглянуць наперад, трэба спачатку паглядзець назад. І сапраўды, калі мы азірнемся назад, то павінны адзначыць: камуністы, якія ў тыя гады складалі пераважную большасць у Вярхоўным Савеце, добра разумелі, што азначае вырашэнне гэтага пытання для развіцця роднага краю, для нашай любай Радзімы.

Мне цяжка зараз уявіць, што знойдуцца людзі, якія не пагодзяцца са словамі, запісанымі ва ўступнай частцы закона: **"Мова — не толькі сродак зносін, а і душа народа, аснова і важнейшая частка яго культуры. Жыве мова — жыве народ. Кожная мова, яе літаратурная, жывая мясцовая і гістарычная разнавіднасць — неацэнны скарб, які належыць не аднаму народу, а ўсяму чалавецтву"**.

На мой погляд, закон атрымаўся ўзважаным і добра падрыхтаваным. Складаецца ён з шасці раздзелаў і ўключае 36 дэталёва распрацаваных артыкулаў. У законе вызначаецца статус не толькі беларускай мовы як дзяржаўнай, але і рускай мовы як мовы міжнацыянальных зносін народаў Саюза ССР, а таксама іншых моў, якія ўжываюцца ў Беларусі.

У Пастанове Вярхоўнага Савета "Аб парадку ўвядзення ў дзеянне Закона Беларускай ССР "Аб мовах у Беларускай ССР" дэпутаты Вярхоўнага Савета вырашылі ўводзіць у дзеянне палажэнні закона паступова, на працягу 10 год — з 1 верасня 1991 года да 1 верасня 2000 года.

Гэты дзесяцігадовы тэрмін у сваю чаргу разбіты паартыкульна на чатыры перыяды, з якіх вынікае наступнае: артыкулы 1, 2, 3, 5, 6, 9, 21, 30, 36 уводзяцца ў дзеянне з 1 верасня 1990 года; артыкулы 11, 27, 28, 29, 31, 32, 35 уводзяцца ў дзеянне на працягу трох гадоў; артыкулы 4, 7, 12 — на працягу 3—5 гадоў; артыкулы 8, 10, 13, 14, 23 — на працягу пяці гадоў; артыкулы 15, 16, 17, 18, 19, 20, 22, 24, 25, 26 — на працягу 10 гадоў з моманту ўступлення ў сілу закона.

Усё зроблена вельмі разважліва, дакладна і зразумела.

Але дэпутаты Вярхоўнага Савета на гэтым не спыніліся, а пайшлі далей і прынялі Закон "Аб дапаўненні артыкула 68 Канстытуцыі (1978 г.) (Асноўнага Закона) Беларускай ССР", у якім запісалі:

**"Дзяржаўнай мовай Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі з'яўляецца беларуская мова.**

**Беларуская ССР забяспечвае свабоднае карыстанне рускай мовай як мовай міжнацыянальных зносін народаў Саюза ССР.**

**Парадак ужывання беларускай, рускай і іншых моў у Беларускай ССР вызначаецца заканадаўствам Беларускай ССР"**.

Як грамадзянін Рэспублікі Беларусь, як былы Старшыня Вярхоўнага Савета і як сённяшні дэпутат Вярхоўнага Савета, я глыбока ўдзячны дэпутатам XI склікання за гэты закон і буду адзначаць гэта ўсюды і заўсёды.

Я сумняваюся, што сённяшнія дэпутаты здолелі б прыняць такі закон. Хаця справа і не ў гэтым.

Было б усё добра, каб не адно слова, як кажуць на Беларусі — але... Вельмі складана распрацаваць і прыняць дакладны закон па такім важным пытанні, але яшчэ больш складана, занадта складана правесці яго ў жыццё.

Аналізуючы стан выканання артыкулаў Закона "Аб мовах у Беларускай ССР" пасля шасці год з дня яго прыняцця, можна зрабіць ужо пэўныя вывады, на вялікі жаль, вельмі і вельмі несуцяшальныя.

Што датычыцца дзевяці артыкулаў, якія ўведзены ў дзеянне з 1.09.90 года, то трэба звярнуць увагу на тое, што большасць рэспубліканскіх і мясцовых дзяржаўных органаў, прадпрыемстваў, устаноў і грамадскіх арганізацый за шэсць год так і не стварылі грамадзянам неабходныя ўмовы для вывучэння беларускай і рускай моў і дасканалага валодання імі, як гэтага патрабуе пункт 5 артыкула 2.

Артыкулам шостым арганізацыя выканання Закона аб мовах ускладзена на Кабінет Міністраў і выканаўчыя камітэты мясцовых Саветаў, якія ў апошні час гэтай справай не займаюцца, а калі што і робяць, то складаецца ўражанне, што не на карысць закона, а супраць яго.

З сямі артыкулаў, якія прадугледжвалася выканаць да 01.09.93 года, застаюцца часткова не выкананы тры артыкулы за нумарамі 28 (мова ў сферы культуры), 29 (мова сродкаў масавай інфармацыі) і 31 (мова аб'яў і паведамленняў).

Тры артыкулы, якія прадугледжвалася выканаць у перыяд з трох да пяці гадоў, засталіся часткова не выкананы.

Частка першая артыкула 4 **(Абавязак службовых асоб, іншых работнікаў дзяржаўных органаў, прадпрымальнікаў, устаноў і грамадскіх арганізацый валодаць беларускай і рускай мовамі)** не выканана.

Не выконваюцца п. І і ІІ артыкула 7 (Мова актаў органаў дзяржаўнай улады і кіравання), п. І артыкула 12 (Мова з'ездаў, канферэнцый і іншых форумаў).

Выкананне артыкулаў за нумарамі 15, 16, 17, 18, 19, 20, 22, 24, 25, 26 прадугледжана да 2000 года і можна было б падрабязна не разглядаць ступень іх выканальнасці, але ж неабходна адзначыць, што прайшло ўжо шэсць гадоў з моманту прыняцця Закона "Аб мовах у Беларускай ССР", а з гэтых 10 артыкулаў пакуль што толькі чатыры артыкулы — 22 **(Права на выхаванне і атрыманне адукацыі на нацыянальнай мове)**, 24 **(Мова навучання і выхавання ў агульнаадукацыйных школах)**, 25 **(Мова навучання ў прафесійна-тэхнічных вучылішчах, сярэдніх спецыяльных і вышэйшых навучальных установах)**, 26 **(Уступныя экзамены на мове)** — часткова выкананы.

Але ў апошні час многае тое, што было дасягнута, страчана, а фактычна незаконна адменена.

На мой погляд, да майскага рэферэндуму 1995 года адносіны да Закона "Аб мовах у Беларускай ССР" былі больш уважлівыя, патрабавальныя і строгія. Нават адзначаліся перабольшванні патрабаванняў і злоўжыванні пры ўвядзенні беларускай мовы ў школах і іншых навучальных установах.

Напрыклад, у большасці сельскіх раёнаў наогул не засталося сярэдніх рускіх школ. Хоць пэўная колькасць бацькоў і дзяцей выказвалі жаданне вучыцца ў рускіх школах. Можна было б прыводзіць і больш падобных прыкладаў. Такія падыходы людзі не разумелі. Нельга далікатную справу рабіць хуткімі тэмпамі, таму што будзе многа памылак, якія абавязкова выкарыстаюць тыя людзі, якія выступаюць супраць беларускай мовы. На вялікі жаль, так у нас і здарылася.

Пасля правядзення майскага рэферэндуму адносіны да закона і асабліва да беларускай мовы рэзка змяніліся ў іншы бок.

Зараз у школах пачалі пераводзіць дзяцей, якія чатыры гады правучыліся на беларускай мове, у класы з рускай мовай, што, вядома, не можа адмоўна не адбіцца на навучанні дзяцей.

Адпаведныя падыходы робяцца і ў іншых навучальных установах.

На вялікі жаль, не адстаюць ад дзяцей і моладзі ў гэтым накірунку і дарослыя. Я маю на ўвазе дзяржаўныя ўстановы, прадпрыемствы і іншыя арганізацыі. У розных установах і арганізацыях практычна нічога не робіцца ў арганізацыйным і тэхнічным плане для выкарыстання беларускай мовы ў якасці дзяржаўнай.

Ніхто належным чынам не кантралюе гэта пытанне. Усё радзей і радзей гучыць беларуская мова ў вышэйшых дзяржаўных установах.

Нават у Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь яе рэдка можна пачуць. Дэпутаты Вярхоўнага Савета, якія добра ведаюць беларускую мову, далёка не заўсёды карыстаюцца ёю пры выступленнях, не стала абавязкам рыхтаваць праекты дакументаў на беларускай мове.

Няўжо трэба ехаць за мяжу, каб выступаць на роднай мове? Пэўна, некаторыя лічаць, што лепш, а галоўнае прасцей, карыстацца звыклай "трасянкай", чым дасканала валодаць беларускай, а таксама і рускай мовай. Таму што мову пэўнай часткі нашага насельніцтва аднесці да чыстай рускай мовы таксама нельга. І я ўпэўнены, што ніколі чыстай рускай мовы ў Беларусі не будзе.

Дарэчы, аб рэферэндуме, які адбыўся 14 мая 1995 года, дзе ставілася пытанне: "Ці згодны Вы з наданнем рускай мове роўнага статуса з беларускай?" у галасаванні прынялі ўдзел 4830582 чалавекі, або 64,8 працэнта. 2615238 чалавек (35,2 працэнта) не ўдзельнічалі ў галасаванні. Акрамя таго, 613516 (12,7 працэнта) чалавек прагаласавалі супраць і 192 693 (4,0 працэнта) бюлетэня аказаліся несапраўднымі.

Такім чынам, станоўча не выказаліся за роўнасць рускай і беларускай моў 3421447 чалавек — гэта амаль што палова выбаршчыкаў, якія былі ўключаны ў спісы для галасавання. Таму я лічу, што няма грунтоўнай падставы ўсюды заяўляць аб рашучай перамозе, бо тры з паловай мільёны насельніцтва — гэта нашы людзі, і не лічыцца з іх думкай нельга.

Акрамя таго, нядрэнна было б улічыць, колькі рускіх па нацыянальнасці грамадзян Рэспублікі Беларусь прынялі ўдзел у галасаванні. Тады вынікі гэтага галасавання ўвогуле стануць адмоўнымі.

Мяркую, Вярхоўнаму Савету Рэспублікі Беларусь трэба дэталёва вывучыць гэту праблему і прыняць адпаведнае рашэнне.

Але пакуль што дэпутатам Вярхоўнага Савета і ў першую чаргу Камісіі па адукацыі, навуцы, культуры неабходна ўзяць пад кантроль выкананне Закона "Аб мовах у Беларускай ССР", прынятага ў 1990 годзе, і патрабаваць ад выканаўчай улады выканання запланаваных мерапрыемстваў.

Спадзявацца на тое, што гэта зробіць сама выканаўчая ўлада, нельга.

Тым больш, што ні Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь, ні вынікі рэферэндуму не змянілі статус беларускай мовы як дзяржаўнай. У артыкуле 17 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь запісана: **"Дзяржаўнай мовай Рэспублікі Беларусь з'яўляецца беларуская мова.**

**Рэспубліка Беларусь забяспечвае права свабоднага карыстання рускай мовай як мовай міжнацыянальных зносін"**.

Я цвёрда перакананы, што ў Беларусі, як і ў любой іншай дзяржаве, павінна быць свая родная мова, бо калі ёсць мова — ёсць нацыя, ёсць краіна! Няма мовы — няма нацыі, няма краіны!

На мой погляд, гэтыя вывады для нас, беларусаў, маюць асаблівы сэнс і асаблівую значнасць.

Цяжка знайсці ў свеце краіну, якая будуе прававую дзяржаву і ў якой ствараюцца розныя таварыствы па абароне ці ў падтрымку роднай мовы, мовы нашых бацькоў.

**Мечаслаў ГРЫБ,**
**дэпутат Вярхоўнага Савета Беларусі ад 129-й Дзятлаўскай выбарчай акругі**

# УРАБЛЯЦЬ СВАЮ НІВУ!

## ЯШЧЭ РАЗ ПРА ДЭНАЦЫЯНАЛІЗАЦЫЮ НАШАЙ КУЛЬТУРЫ

*Працяг. Пачатак N 20*

### 2. ДАЛЕЙ ЎЖО БЕЗДАНЬ...

У русіфікацыі беларускай культуры мы ўжо даўно і так далёка зайшлі, што не толькі простыя смяротныя, але і высокія дзяржаўныя асобы, больш таго, нават многія перадавыя прадстаўнікі мастацкай інтэлігенцыі канчаткова змірыліся з нашай бядой, не стараюцца рабіць аніякіх практычных захадаў па выратаванні ад рэальнай пагібелі той культуры, якая толькі адна і мае права быць на нашай зямлі ў якасці ўсеагульнай, усенароднай, у поўным сэнсе слова дзяржаўнай. Але самае страшнае ў тым, што сярод гэтай элітарнай часткі людзей ёсць такія, што цалкам апраўдваюць усё, што адбылося і адбываецца з беларускай культурай на яе этнічнай тэрыторыі і працягваюць з былой актыўнасцю і размахам пашыраць, развіваць на ёй рускія пачаткі. Яны і прамовіць не даюць, каб усе тыпы дзяржаўных установ культуры, навукі, асветы, сродкі масавай інфармацыі перавесці на беларускую мову, г.зн. зрабіць іх здольнымі працаваць у рэчышчы беларускай культуры.

Немалую небяспеку ўяўляюць людзі, якія практычна страцілі ўсялякую надзею папраўіць становішча і з цвёрдай упэўненасцю заяўляюць, што ўжо нельга нічога змяніць, беларускай нацыянальнай культуры наканаваны поўны заняпад, наш край павінен цалкам стаць арэалам існавання рускай культуры з часовым захаваннем толькі беларускага аўтэнтычнага фальклору. Ва ўмовах вайны такую катэгорыю людзей залічваюць да панікёраў і ўжываюць супроць іх самыя строгія меры пакарання. Зараз у нас мірны час, таму з усімі тымі, хто прарочыць непазбежную пагібель беларускай культуры, павінна праводзіцца зусім іншага парадку работа, галоўным чынам растлумачальная. Прычым вельмі грунтоўная, таму што нам непатрэбныя ні панікёры, ні ныцікі. Народ павінен быць упэўнены, што яго культура выжыве, калі вырашэнню гэтай праблемы надаць дзяржаўны характар, узяцца за яе ўсёй грамадой, робячы асаблівы ўпор на творчую, навуковую, педагагічную інтэлігенцыю. Моцная занепакоенасць празмернай дэфармацыяй нацыянальных асноў беларускай культуры, жаданне дапамагчы выцягнуць яе з гэтай багны і прымусілі аўтара данага артыкула ўзяцца за пяро, каб выказаць свае думкі па гэтай лёсавызначальнай для нашага народа праблеме. Наколькі яны пададуцца слушнымі, няхай мяркуе чытач.

Я цалкам дыстанцыруюся, прычым на вялікую адлегласць, як ад тых, хто лічыць, што нічога не трэба мяняць у кірунках развіцця беларускай культуры з мэтай вызвалення яе ад русіфікацыі, так і ад тых, хто сцвярджае, што апошняя так глыбока запала ў нутро беларускай культуры, што ўжо аніякія сілы не выратуюць яе ад поўнай асіміляцыі. Гісторыі вядомыя выпадкі, калі народы траплялі ў такія ці прыкладна такія варункі, але, як след ўсвядоміўшы небяспеку, знаходзілі ў сабе сілы для пераадолення ўсіх тых з'яў, што прычыніліся да іх культурна-моўнай асіміляцыі. Проста не веру, што ў нашага народа і ў цесна знітаванай з ім часткі інтэлігенцыі і найперш мастацкай, навуковай, педагагічнай ужо цалкам выпетрыліся іх самыя здаровыя сілы. Не выключаю, што любоў да нацыянальнага ў беларускай культуры засталася і ў пэўнай часткі нашых палітыкаў, кіруючых работнікаў сферы эканомікі, прадпрымальнікаў, камерсантаў, фермераў і іншых катэгорый людзей, роля якіх у іншых краінах бывае вельмі адметнай у справе адраджэння і развіцця нацыянальнай культуры. І калі мы хоць палову таго, што робіцца ў нас дзеля забеспячэння прасторы рускай культуры, хоць палову таго, што робяць нашы сродкі масавай інфармацыі дзеля ідэалагічнай падрыхтоўкі народа палітычна інтэгравацца з Расіяй ці ўступіць у аднаўлены СССР, скіруем на беларускую культуру, дык зможам прыкметна папраўіць яе стан, каб затым больш упэўнена сягаць да новых рубяжоў. Радуе, што і ва ўмовах, калі вельмі нерашуча па лініі саміх дзяржаўных органаў штосьці робіцца па нацыянальным Адраджэнні. да гэтай высакароднай справы ўсё больш людзей далучаецца па закліку свайго сэрца. І галоўнае, што лёс роднай культуры кранае іх самыя маладыя, юныя пласты, якія не хочуць, як іх бацькі і дзяды, жыць цалкам ці пераважна з культуры суседніх народаў. Сведчаннем таму можа служыць інтэрв'ю пераможцы трэцяга Нацыянальнага фестывалю песні і паэзіі (праводзіўся ў 1995 г.) Сяргея Хамякова-Алена з Наваполацка. На пытанне "У чым сутнасць тваёй канцэпцыі" паэт і кампазітар, выканаўца ўласных песняў адказаў: "Зрабіць беларускую мову такой, якой я яе бачу: мяккай, мілагучнай, зразумелай усім людзям славянскага паходжання, украінцам, расіянам, беларусам. Я хачу, каб людзі, народы разумеліся. І я не хацеў бы, каб беларусы сталі мамантамі, якія вымруць. Я не хачу быць накшталт індзейца ў рэзервацыі. Я хацеў бы, каб усе былі роўнымі і ўсё было неяк гарманічна" *("ЛіМ", 28.VII.95).*

Трэба думаць, што колькасць такіх людзей у нас, як Ален, будзе расці, хаця, на вялікі жаль, мозг беларускай нацыі — інтэлігенцыя — у аснове сваёй яшчэ не павярнулася тварам да адраджэнскага працэсу. Яна жыве інтарэсамі тых ідэалаў, на якіх некалі выхоўвалася ў агульнаадукацыйных школах, тэхнікумах і інстытутах ці сфармавала ў сябе нацыянальны нігілізм, чытаючы пракамуністычную літаратуру, хаатычна спажываючы савецкую шматнацыянальную культуру. Ведаю, што сярод сённяшніх дзеячаў культуры, для якіх зусім нічога не азначае яе нацыянальны аспект і нават не хвалюе пытанне, ці магчыма далейшае існаванне беларускага народа як самабытнай этнічнай супольнасці, — ёсць асобы, творчае і духоўнае сталенне якіх адбывалася яшчэ пры жыцці Іосіфа Сталіна, што, магчыма, нават адбілася на іх поглядах на нацыянальную праблему. Дык вось, гэты яшчэ досыць папулярны для ярых інтэрнацыяналістаў савецкага ўзору палітычны дзеяч так адказаў у сакавіку 1921 г. на X з'ездзе РКП(б) тым, хто ігнараваў, адмаўляў самабытнасць беларускай нацыі, яе культуры і мовы: "Гэта няправільна таму, што існуе беларуская нацыя, у якой ёсць свая мова, адметная ад рускай, з прычыны чаго ўзняць культуру беларускага народа можна толькі на роднай яго мове" (падкрэслена мною. — **Л.Л.**). Не гэтак у выніку смерці аўтара цытаты, як з-за неадпаведнасці палітыкі кампартыі Беларусі ў галіне культуры зместу гэтых слоў яна (цытата) ад сярэдзіны 50-х гг. ужо больш не ўжывалася на старонках навуковай і навукова-папулярнай літаратуры, газет і часопісаў.

Існуе жорсткая заканамернасць, што прыстойнага ўзроўню эканомікі нельга дасягнуць без належнага развіцця культуры народа, якая ў сваю чаргу ў многім прадвызначаецца станам эканомікі. З фінансамі ў краіне вельмі цяжка. Няма і дастатковай колькасці буйных, нацыянальна-самасвядомых палітыкаў і спецыялістаў, якія маглі б ва ўмовах дзяржаўнага суверэнітэту, незалежнага існавання краіны наладзіць айчынную вытворчасць, распрацаваць і паслядоўна праводзіць рацыянальныя прынцыпы міждзяржаўнага эканамічнага супрацоўніцтва. Якія б цяжкасці ні зведваліся з фінансамі, нельга згортваць тую працу, якая скіравана на нацыянальна-культурнае Адраджэнне. Між іншым, калі распачынала свае першыя крокі беларуская дзяржава ў асобе БССР, тады на гэтую праблему глядзелі зусім інакш. Відаць гэта і з матэрыялаў Другога Усебеларускага з'езда Саветаў, які праходзіў у снежні 1920 г. Зміцер Жылуновіч, які ў той час займаў высокія пасады ў грамадска-палітычным жыцці рэспублікі, выказаў такую думку адносна парадку працы данага форуму: "Паміж іншымі пытаннямі, якія стаяць на чарзе свайго ўжытку і на якія з'езд мусіць звярнуць першым чынам сваю ўвагу — гэта пытанне: культурнае і эканамічнае". Як бачым, пытанне культуры пастаўлена ім перад эканомікай. Нашым старэйшым пакаленням нялёгка жылося і ў перыяд першай беларусізацыі, але каб гарантаваць ёй поспех, урад БССР прыкладна адну трэць свайго бюджэту выкарыстоўваў на культурна-асветніцкія патрэбы. І не памыліўся, бо чым больш сталеў беларускі народ духоўна, пачынаў прыбаўляць у нацыянальнай самасвядомасці, зведваць радасць ад здзяйснення сваіх нацыянальна-культурных ідэалаў, тым з большай аддачай ён працаваў на вытворчасці незалежна ад формаў яе ўласнасці.

Першых пазітыўных зрухаў у беларускай нацыянальнай культуры мы ніяк не адчуем, пакуль на самым высокім дзяржаўным узроўні не зоймемся рэгуляваннем яе суадносін з рускай культурай на Беларусі. Гэта вельмі складаная і далікатная праблема, бо яна закранае інтарэсы велізарнай колькасці людзей, больш таго дачыненні двух народаў — беларускага і рускага — паміж сабой. Аднак нягледзячы ні на што, дзяржаўныя органы, інтэлігенцыя павінны брацца за яе і чым раней, тым лепш. Найперш за ўсё яны павінны самі ўсвядоміць, а затым сказаць народу, што ў нашай краіне суадносіны паміж прафесійнымі культурамі — беларускай і рускай — склаліся крайне неразумна, з вялікай перавагай апошняй, і назваць віноўніка такога становішча. Шукаць жа яго трэба не толькі тут на месцы, але і ў бальшавіцкім Крамлі Масквы.

Ніводная нацыя свету, нават з самымі багатымі духоўнымі традыцыямі, не развіваецца ў адначассе на дзвюх культурах. Мы, беларусы, насуперак гэтай разумнай логіцы робім — і не адно дзесяцігоддзе! — дыяметральна процілеглае: на сваёй практычна аднароднай у этнічных адносінах зямлі паралельна развіваем не толькі беларускую, але і рускую культуры. Больш таго, і на дзяржаўным узроўні і ў найбольш важных сферах духоўнай творчасці грамадства аддавалі і працягваем аддаваць прыярытэт апошняй, нібыта ў яе няма сваёй гістарычнай тэрыторыі, сваіх прыродных носьбітаў. Бесперспектыўнасць такіх падыходаў дзяржавы і самога грамадства да праблем культуры відавочная: сапраўднай адмыслова нацыянальнай прафесійнай беларускай культуры ў нас практычна не існуе з-за яе працяглага сапернiцтва з рускай. Аднак нягледзячы на ўсё гэта, мы ніяк не спрабуем навукова, на ўзроўні дзяржаўнай палітыкі вызначыць разумныя рамкі культывавання ў нашай краіне рускіх духоўных пачаткаў з тым, каб яны не заганялі ў кут беларускую культуру. І пачынаць гэта трэба не з перыферыі, а з цэнтра, самога Мінска.

Па змесце і формах культурнай дзейнасці нашы сталічныя тэатры оперы і балета, музычнай камедыі з поўным правам могуць насіць назвы "рускія" і нават прэтэндаваць на пэўнае субсідзіраванне з боку Расіі. Думаецца, статус "рускі" заслугоўваюць насіць і многія іншыя тэатры ці культурныя ўстановы абласных цэнтраў краіны. Калі мы зацвердзім за імі такую назву, адразу высветліцца, а што ж з культурных устаноў у нас дома маецца ўласна свайго, беларускага? Шмат іх будзе — сёе-тое зачынім, мала — адчынім. Замацаваўшы за такімі ўстановамі статус "беларуская", ужо не будзем займацца тут якой прыйдзе ў галаву яе кіраўніка культурай, а толькі сваёй нацыянальнай, беларускай. Хопіць трэніравацца ў культурна-моўным скрыжаванні, якое ледзь не пад мятлу вымела з большасці ўстаноў культуры, навукі і асветы, а таксама з сэрцаў многіх прадстаўнікоў мастацкай інтэлігенцыі наш нацыянальны дух, а ў каго яго не было, не дапамагло пасяліцца. Давайце будзем распаўсюджваць ці развіваць на сваёй зямлі чужыя культурныя каштоўнасці ў такой меры, як гэта ў сябе дома робяць з імі рускія, палякі, літоўцы, латышы, французы, немцы... Нам так далёка да гэтых народаў па частцы трываласці нацыянальнага падмурка духоўнага жыцця, а мы, нягледзячы на ўсё гэта, больш увагі аддаём чужой культуры, чым роднай, памылкова думаючы, што толькі такім чынам пракладзём сабе шлях у свет цывілізацыі.

Бадай ніхто, як мы, беларусы, яшчэ не прычыніў і не прычыняе такой велізарнай шкоды агульначалавечай культуры, агульначалавечым духоўным каштоўнасцям, недастаткова выкарыстоўваючы дзеля іх узбагачэння свой нацыянальна-духоўны патэнцыял. У большасці сваёй нашы прафесійныя тэатры, асабліва оперы і балета, музычнай камедыі, эстрадныя калектывы, і амаль цалкам вытворчасць мастацкіх фільмаў — гэта ёсць ні што іншае, як самы горшы, цьмяны, пашарпаны адбітак з рускага. На нашай этнічнай тэрыторыі трэба ўзгадоўваць толькі беларускую нацыянальную культуру, а духоўныя каштоўнасці іншых народаў тут павінны займаць пабочнае значэнне, быць не больш, як звычайнымі ўкрапінамі. Цывілізацыя свету не ведае народа, які ў аднолькавай ступені мог бы на высокім узроўні адначасова развіваць сваю нацыянальную і яшчэ якую-небудзь культуру. Няўжо наш папярэдні шматгадовы горкі ўласны вопыт мала нас пераконвае ў тым, што калі ў перыяд Рэчы Паспалітай, а затым у XIX—XX стагоддзях многія — а часамі большасць — таленавітыя людзі працавалі на карысць адпаведна польскай і рускай культур, дык свая перажывала сапраўдны застой? Сёння з яго мы ніколі не выйдзем, калі будзем імкнуцца ў большай ступені развіваць рускую, чым беларускую культуру.

Пры ўсёй павазе, любові да ўсяго роднага мне, беларускага, пры досыць добрым зарадзе ў мяне пачуцця нацыяналізму ў самым найлеп-шым сэнсе гэтага слова я ўсё ж не стаўлю свой народ у духоўным развіцці вышэй за рускі, польскі, нямецкі, французскі... А таму зусім не веру, што, калі пералічаныя вышэй народы ў стане развіваць толькі адну сваю, нацыянальную культуру і мову, што яны і робяць, дык нам падуладна ў адначассе жыць і развівацца і ў беларускай, і рускай культурна-моўных стыхіях. Трэба з іх выбраць штосьці адно, інакш можам надарвацца. Заўважаецца, што апошнім часам гэта ўсё больш і больш усведамляюць прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі Беларусі і, зразумела, паколькі яны самі ўзгадаваныя не ў духу нацыянальнай культуры яе карэннага насельніцтва, аддаюць свой талент ледзь не цалкам рускай культуры і не ў апошнюю чаргу яшчэ і таму, што спадзяюцца такім шляхам здабыць для сябе большую вядомасць.

Хацелася б памыліцца, але мне здаецца, што нашыя палітыкі, некаторыя прадстаўнікі мастацкай інтэлігенцыі наўмысна ўхіляюцца развіваць усё нацыянальна-спецыфічнае ў беларускай культуры не ў малой ступені яшчэ і таму, што разлічваюць гэтым самым пасадзейнічаць паглыбленню сяброўства паміж беларускім і рускім народамі. Гэта вялікая і недаравальная для такіх паважаных катэгорый людзей памылка. Наадварот, ступень сяброўства гэтых народаў у найбольшай ступені залежыць і будзе залежаць ад таго, наколькі высока ўздымуць беларусы ў сваім жыцці ролю нацыя-нальнай культуры і мовы. Калі ж на змену ім па віне палітыкаў і дзеячаў культуры прыйдуць рускія духоўныя адпаведнікі, гэта пасее ў беларусаў пачуццё крыўды, вялікай незадаволенасці ад такой культурна-моўнай палітыкі, будзе клікаць людзей да розных форм змагання за сваё выжыванне і што самае горшае — шукаць віноўнікаў такой трагедыі ў самой рускай культуры і мове, якія ж на самай справе не маюць ніякага дачынення да нашых бедаў.

Мне могуць запярэчыць, што моцная дэнацыяналізацыя беларускай прафесійнай культуры з лішкам кампенсуецца багаццем нашага аўтэнтычнага фальклору, шырокім развіццём мастацкай самадзейнасці, з'яўленнем даволі вялікай колькасці і прычым досыць папулярных вакальна-інструментальных ансамбляў з ярка акрэсленай накіраванасцю на ўсё беларускае, таму, маўляў, становішча ў нашай культуры ў цэлым не такое ўжо і пагражальнае, безнадзейнае. Значэнне і роля аўтэнтычнага беларускага фальклору, мастацкай самадзейнасці, народных вакальна-інструментальных ансамбляў мне добра вядомыя. Я ніколькі не жадаю іх прынізіць, больш таго, з'яўляюся іх вялікім і шчырым прыхільнікам. Ведаю, што ў гэтых відах культурнай дзейнасці ў нас справы ніколькі не горшыя, а можа, нават і лепшыя, чым у іншых народаў. І ўсё ж для гарантавання, развіцця самабытнага беларускага нацыянальнага культурнага жыцця гэтага вельмі і вельмі мала. Ужо адышлі далёка ў гісторыю часы, калі беларускі народ мог быць спакойным за свой лёс, надзейна замкнуўшыся ў фальклорна-этнаграфічных формах культуры. Зараз яны, нават дасягнуўшы самых высокіх вяршыняў дасканаласці, не выратуюць нас ад культурнай асіміляцыі. Нам сёння да зарэзу патрэбна самая развітая ва ўсіх сваіх жанрах прафесійная беларуская нацыянальная культура, у аснове якой ляжаць нашы нацыянальныя матывы, наша родная мова. Удумайцеся, калі ласка, якую блізкую да зместу нашай гаворкі думку выказаў амаль чвэрць стагоддзя таму вядомы грамадска-палітычны дзеяч беларускай дыяспары, старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі Вінцэнт Жук-Грышкевіч: "І наіўны быў бы той, хто б думаў, што хопіць нам мець свае рэлігійныя (дарэчы, іх у нас на сёння яшчэ няма. — **Л.Л.**), грамадскія й культурныя арганізацыі, апранаць беларускую вопратку й спяваць беларускія песні, каб быць нацыяй, а ня толькі этнічнай групай. Так, без сумліву, усё гэта нам вельмі патрэбна як духовая й нацыянальная аснова, але, апрача гэтага ўсяго", ён лічыў яшчэ больш патрэбным для беларусаў мець дзяржаўную незалежнасць. Цалкам пагаджаюся, толькі дабаўлю, што для таго, каб беларусам быць паўнавартасным народам, а не этнічнай масай, трэба яшчэ абавязкова мець высокаразвітую прафесійную нацыянальную культуру, галоўным стрыжнем якой павінна быць беларуская мова. Таму вельмі небяспечна супакойваць сябе тым, што наша нацыянальная культура вельмі добра адчувае ў музеях, у выступленнях фальклорных ансамбляў, святочных народных строях, якімі мы цешым саміх сябе, пераконваем свой урад, што беларусы яшчэ, дзякаваць Богу, жывуць на свеце. За такую фасадную нацыянальную культуру беларусаў можна было б не крытыкаваць, а дзяржаву хваліць толькі тады, калі б у нас на належным узроўні знаходзіліся ўсе віды прафесійнай культуры і мастацтва. Гэтага, на жаль, мы не маем. Зрабіць іх такімі — гістарычная місія таленавітай мастацкай інтэлігенцыі і перадусім беларускай па паходжанні.

Мы дапусцім вялікую памылку, калі паспрабуем увесь цяжар па выкананні гэтай місіі ўскласці на людзей небеларускай нацыі, няхай нават і вельмі таленавітых. Яшчэ раз паўтаруся — гэта справа калі не выключна, дык пераважна саміх беларусаў. Ні рускія, і ўкраінцы, ні палякі і яўрэі, ні немцы і італьянцы, ні негры і арабы не зробяць нашы оперны і тэатр музычнай камедыі, абласныя і гарадскія драматычныя тэатры, вакальна-інструментальныя ансамблі, палацы і клубы асяродкамі беларускай нацыянальнай культуры, бо для гэтага, акрамя таленту, патрэбны яшчэ беларуская ментальнасць, беларускі дух. На што здольныя запрошаныя з-за межаў Беларусі, навочна сведчыць уся пасляваенная практыка. А яна ж вельмі жахлівая, бо ў нашай прафесійнай культуры ледзь не поўнасцю дэфармаваліся нацыянальныя асновы. Запрашаць з боку таленты добра тады, калі прафесійная культура мае трывалы нацыянальны падмурак, а калі яго трэба яшчэ толькі ствараць — гэта павінна быць справай яе прыродных носьбітаў.

*(Працяг будзе.)*

Леанід ЛЫЧ

папулярнасць і як у цяперашніх варунках дамагчыся папулярнасці беларускамоўнага твора? Думаць можна, але стаць папулярным зараз беларускаму паэту — гэта тое самае, што спартыўнаму прафану ўзысці на Эверэст. Вядома, можна "нешта ўчыніць" у літаратурным асяроддзі, і рэха гэтай "падзеі", пакінуўшы сталіцу, дойдзе да "абласных і раённых цэнтраў", зрабіўшы маладога альбо ў гадах паэта "героем дня". Але што з гэтага? Заўтра ж цябе забудуць.

Паэзія — няўдзячны жанр для папулярнасці. Іншы малады спявак ці спявачка паскачуць, патрасуць каляровымі сукнямі, прапяюць нейкую пустышку — і ўсе іх ведаюць! А тут хоць найлепшы верш напішы ці глыбокую па змесце кнігу — і нуль увагі. Аднак хай гэты парадокс аналізуюць сацыёлагі.

Але чаму нам так хочацца мець шырокую чытацкую аўдыторыю, быць яе любімцам? Можа, хопіць і "вузкай кампаніі", сяброўскага кола сапраўдных аматараў паэзіі? Мы ж, здаецца, прыбралі з фасадаў лозунг, што "мастацтва належыць народу", паводле якога цябе павінен чытаць "увесь працоўны люд", а гэта тысячы і мільёны... Не чытаюць — і добра! Паэзія — элітарны жанр. Ці ёсць патрэба ўлагоджваць рыфмай замбіраванага беларуса, якому яна — да лямпачкі? У імя ўласнай папулярнасці паэт не павінен быць трубадурам люмпена і лямантаваць разам з ім з нагоды адсутнасці таннай каўбасы. Сёння я спакойна і "мудра" рэкамендую яму: не па кішэні табе каўбаса — не еш яе. Проста і геніяльна. Я, напрыклад, вельмі рэдка ўжываю яе і не збіраюся па гэтай прычыне ныць і плакаць.

Можа, у нас зашмат трагізму з выпадку адсутнасці масавага чытача? Рамантычна-патрыятычны перыяд у беларускай паэзіі, здаецца, закончыўся пасля апошняга рэферэндуму. Феномен нашага нацыянальнага нігілізму варта прызнаць за аб'ектыўны факт. Мы жывём у краіне, якой правілі і правяць дэманы, якія ўсё рабілі і робяць, каб вытруціць з душы суайчыннікаў нацыянальную свядомасць.

Не чытаюць нашы беларускамоўныя кнігі? Як гаворыцца, вольнаму — воля. Мы, беларускія пісьменнікі, як-небудзь выжывем, хоць гэта і горкае прызнанне. Але разумеем і па-ранейшаму будзем гаварыць, што народ, які цураецца сваёй мовы, сваёй літаратуры — непаўнавартасны, у яго няма будучыні. Гэта вельмі сур'ёзная выснова, да якой не можа не прыслухацца наш зрусіфікаваны люд. У нас ёсць вялікае спадзяванне на маладых беларусаў, у якіх яшчэ не знік інстынкт нацыянальнага. Дай Бог ім душэўнага прасвятлення!

А мы самі, тыя, каго не вельмі ці зусім не чытаюць "тутэйшыя людзі", усё-ткі не сыдзем са сваіх пазіцый і будзем займацца сваёй няўдзячнай справай, на экзістэнцыяльным узроўні ўпарта захаваем сваю асабістую нязгоду з аб'ектыўным ці выпадковым ходам гісторыі ў дачыненні да Беларусі. У нас не павінна быць пакорнасці гістарычнаму фаталізму. Сізіфаў камень беларускай літаратуры мусіць быць узняты на вяршыню гары, хоць яго мо і скоцяць уніз нашы айчынныя дыверсанты, але гэта не павінна адбіць нашу ахвоту падымацца зноў.

Цікавасць у людзей да беларускамоўнай паэзіі, відаць, з'явіцца толькі тады, калі Беларусь будзе нешта значыць палітычна і эканамічна, калі патрыятызм пашырыцца далей "культурнага пласту" насельніцтва. Калі ж Беларусь зліецца з Расіяй, баюся, што наша паэзія будзе ўяўляць толькі этнаграфічны інтарэс для вучоных.

Але не ўсё, мусіць, так кепска, як я напрарочыў. Не толькі Бог, але і мы, усе свядомыя суайчыннікі, паспрыяюць таму, каб беларускі карабель шчасліва плыў у вечнасць і пявучымі ветразямі на ім трапяталася наша паэзія...

Пісьменніцкія пакаленні ў літаратуры рэальна існуюць. Яны адрозніваюцца не толькі ўзростам, але і сваім стаўленнем да творчасці. Маладзейшае пакаленне творцаў заўсёды мае вялікую цягу да рэфарматарства, да абнаўлення літаратуры, што можна толькі вітаць. Яно нярэдка адносіцца да старэйшых пісьменнікаў празмерна крытычна, але гэта не заўсёды апраўдана, бо "маладая" і "немаладая" літаратура заўсёды неадназначная. А "склейваюць" гэтыя пакаленні таленавітасць асобных яе прадстаўнікоў і традыцыя. Я люблю і шаную сваё пакаленне — гэта А. Разанаў, С. Законнікаў, Р. Баравікова, Т. Бондар, В. Коўтун, Н. Мацяш, Г. Каржанеўская, Ю. Голуб, ну і, вядома ж, Ж. Янішчыц і Р. Семашкевіч, якія так рана пайшлі з жыцця.

А што тычыцца маіх блізкіх па духу папярэднікаў у літаратуры — гэта Бадлер, Верхарн, Рыльке, Блок, наш Вярцінскі.

Мае наступнікі ў літаратуры? Гэтым не цікавіўся.

**Мар'ян ДУКСА**

Сярод кніг

# ПРА ЧАС І ПРА СЯБЕ

"Старонкі інтэрв'ю, дыялогі" — такі падзагаловак мае кніга Міколы Мікуліча "На зломе часу", толькі што выпушчаная выдавецтвам "Навука і тэхніка". Як вядома, жанр інтэрв'ю, дыялогу — мабільны, дазваляе таму, хто сустракаецца з людзьмі, якія трапілі ў поле яго зроку, дастаткова поўна выявіць і ўласную пазіцыю, а разам з тым даведацца аб пазіцыі субяседніка, а калі гэта чалавек творчы, то — лепей высветліць асноўныя бакі яго мастакоўскай дзейнасці, разабрацца ў сімпатыях і антыпатыях, даведацца пра гісторыю ўзнікнення пэўных твораў. А гэта ўжо цікава для самага шырокага чытача.

М. Мікуліча "лімаўскі" чытач больш-менш ведае. У тым ліку і праз асобныя інтэрв'ю, гутаркі, што змяшчаліся на старонках штотыднёвіка, але, магчыма, больш па рэцэнзіях, літаратурна-крытычных артыкулах. Ён чалавек параўнальна малады. Нарадзіўся ў 1960 годзе на Любаншчыне. Скончыў філалагічны факультэт Мінскага педагагічнага інстытута імя М. Горкага, аспірантуру Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук Беларусі, працаваў у Гродзенскім дзяржаўным універсітэце імя Янкі Купалы, дактарант Інстытута літаратуры. У 1994 годзе выдаў манаграфію "Максім Танк і сучасная беларуская літаратура", у якой здолеў у многім па-новаму глянуць на творчасць ці не самага выдатнага нашага паэта, разгледзець яе ў кантэксце літаратурнага працэсу.

Асобныя моманты жыцця і творчасці Яўгена Іванавіча, яго стаўленне да сённяшніх падзей (гутарка адбывалася ў маі 1993 года) можна высветліць, пазнаёміўшыся з матэрыялам "На этапах", якім і адкрываецца кніга. Свядома адмяжоўваюся ад жанравага ўдакладнення, бо перад намі ўсё ж не інтэрв'ю і не гутарка ў іх традыцыйным разуменні. Дарэчы, і ў некаторых іншых публікацыях М. Мікуліч не вельмі прытрымліваецца жанравай "чысціні". Гэта, бадай, ідзе на карысць матэрыялам, бо перад тым, чым пачаць уласна гаворку, аўтар дае сваё разуменне творчасці таго, з кім гутарыць. У некаторых жа выпадках і ў сярэдзіне матэрыялу прысутнічаюць свайго роду адступленні — аўтарскія ўдакладненні, тлумачэнні, а тым самым відаць і літаратуразнаўчы момант.

Але — пра матэрыял "На этапах". М. Мікуліч, трэба аддаць яму належнае, паспяхова пераадолеў супраціўленне багатага дакументальнага матэрыялу. Ён пайшоў шляхам высвятлення тых момантаў гісторыі беларускай літаратуры і нацыянальнага жыцця ў цэлым, пра якія пакуль вядома не шмат, а М. Танк мог выступіць аўтарытэтным і аб'ектыўным сведкам. Прынамсі, з матэрыялаў можна шмат даведацца пра стасункі творчай інтэлігенцыі ў Заходняй Беларусі і ўвогуле пра тамтэйшае жыццё. Дзякуючы М. Мікулічу, Яўген Іванавіч расказвае пра Н. Арсенневу, А. Станкевіча, чые імёны сёння, як кажуць, на слыху. М. Танк карыстаецца не эмоцыямі, а фактамі, таму і гаворыць, скажам, пра тую ж Н. Арсенневу прыязна. Разам з тым ён шчыра прызнаецца: "Цяпер, разумееце, мяне насцярожвае ўсеагульная амністыя людзей, нават тых, якія адыгралі вельмі непрыглядную ролю ў адраджэнскім руху Заходняй Беларусі. Ну вось, скажам, Астроўскі. Я вучыўся ў гімназіі тады. Калі разгарнуліся забастоўкі супроць паланізацыі беларускіх школ і закрыцця, ліквідацыі іх, гэты самы Астроўскі, які потым, падчас нямецкай акупацыі, стаў прэзідэнтам Беларускай цэнтральнай рады, выклікаў цэлы атрад шпікоў і пальцам торкаў, каго з нас хапаць. Відаць, чалавек з паўсотні ўзялі ў той час. З яго дапамогай пры універсітэце Стэфана Баторыя была арганізавана студэнцкая карпарацыя Ф. Скарыны, якая мела задачу адцягнуць моладзь ад нацыянальна-вызваленчага руху".

І ў час гаворкі з М. Танкам, і пры сустрэчах з іншымі пісьменнікамі М. Мікуліч, як правіла, цікавіцца іх стаўленнем да творчасці Янкі Купалы і Якуба Коласа. Што ж, гэта не можа не выклікаць ухвалы. Праўда, хацелася б, каб дзе-небудзь (відаць, лепей было гэта зрабіць у першым матэрыяле) усё ж з'явілася аўтарская агаворка наконт таго, чаму менавіта на гэтых двух волатаў нацыянальнага духу скіравана ўвага. Аднак гэта — між іншым. І М. Танк, і С. Грахоўскі ("З Купалам у сэрцы"), канечне ж, не абмяжоўваюцца гаворкай толькі пра мастакоўскія набыткі песняроў, а і згадваюць аб сустрэчах з імі. У гэтым сэнсе, не адмаўляючы сказанага М. Танкам, шмат даюць згадкі С. Грахоўскага, бо ён дазваляе адчуць саму атмасферу 30-ых гадоў. А ў выніку буйным планам паўстае не толькі Я. Купала, а і іншыя нашы пісьменнікі. І бачацца ж яны найперш жывымі людзьмі, а не "хрэстаматыйнымі", як падаюцца ў падручніках і дапаможніках па літаратуры.

Сам час з яго супярэчлівай хадой, грамадская атмасфера ў краіне (у тым ліку ў гады вайны) выразна ажываюць у гутарцы з А. Семяновічам "Помніцца многае...". Доктара філалагічных навук А. Семяновіча ведаем як крытыка і літаратуразнаўцу, даследчыка гісторыі беларускай драматургіі, а гэтым разам Антон Аляксандравіч паўстае і захопленым апавядальнікам, які валодае цудоўнай памяццю і здатны не проста паведаміць значныя звесткі з жыцця (і не толькі са свайго), а і даць тлумачэнне многім падзеям, што адбываліся ў грамадстве і сёння патрабуюць не столькі ацэнкі, колькі пераацэнкі, у прыватнасці, звязаныя з дзейнасцю партызан.

Вострай публіцыстычнасцю, а то і палемічнасцю вызначаецца гаворка з І. Шамякіным "На вастрыі часу". Іван Пятровіч, як вядома, выказваецца шмат і па розных пытаннях, прытым заўсёды мае ўласнае меркаванне, не баіцца гаварыць праўду, якая сяму-таму сёння не падабаецца. М. Мікуліч, не паўтараючы тых, хто меў магчымасць паразважаць з І. Шамякіным аб надзённых праблемах сучаснасці раней, таксама не абыходзіць вострых вуглоў і супярэчных момантаў. А Іван Пятровіч не ўхіляецца ад прамога адказу. У выніку і на самай справе атрымліваецца дыялог — жывы, дзейсны, патрэбны...

Як відаць з даты, што пазначана ў канцы матэрыялу, з Н. Гілевічам аўтар сустракаўся двойчы: у ліпені 1987 года і ў кастрычніку 1994-га. Бадай, калі б і не стаяла менавіта такая назва ў загалоўку — "У імя нацыянальнай ідэі", той, хто добра знаёмы з творчасцю Ніла Сымонавіча, знаёмы з яго грамадскай дзейнасцю, наўрад ці засумняваўся б, што гаворка павінна была пайсці менавіта ў гэтым кірунку. На сённяшні дзень Н. Гілевіч, як вядома, належыць акурат да тых, хто паслядоўна, мэтанакіравана і рашуча змагаецца за тое, каб беларусы ў сваёй краіне заставаліся беларусамі, каб усё нацыянальнае своечасова падтрымлівалася, а дух Адраджэння не згасаў, авалодваў душамі новых і новых людзей. Н. Гілевіч перакананы: "Адзіная сіла, якая магла б хоць у нейкай меры аб'яднаць разнамасных і рознагалосых, — гэта беларуская нацыянальная ідэя, ідэя адраджэння Беларусі як незалежнай дзяржавы — са сваім уласным аблічам, уласнай мовай і культурай, уласнай, самастойнай, унутранай і міжнароднай палітыкай. Праз гэта абавязкова праходзілі ўсе дзяржавы, якія вырываліся з-пад апекі магутных дабрадзеяў і якія сёння маюць высокі аўтарытэт. У нас павінен перамагчы курс на ўсенароднае ўсведамленне гэтай ісціны, на ўсеахопную беларусізацыю душ і сэрцаў мільёнаў "тутэйшых", бо толькі свядомыя патрыёты Беларусі зробяць сваю краіну сапраўды свабоднай, багатай і ўтульнай для сумленнага працоўнага чалавека. Архараўцы і тарбахваты — не зробяць. Але такі магістральны курс, на вялікі жаль, у нас яшчэ не ўзяты, яшчэ не абвешчаны тымі, у каго сёння ўлада. Значыць, выкарасканне з прорвы сацыяльна-эканамічнага і грамадска-палітычнага хаосу будзе і вельмі доўгім і вельмі пакутлівым".

Чытаецца гутарка з А. Лісам "Трохі пра спадчыну: літаратурную, гістарычную, фальклорную". Зноў жа Арсеня Сяргеевіча, як і А. Семяновіча, ці не ўсе мы больш ведаем як даследчыка, а ў асноўным, ён "прывязаны" (у лепшым сэнсе гэтага слова) да заходнебеларускага матэрыялу. У гэтым кірунку і вядзе гаворку М. Мікуліч, але не абмяжоўваецца толькі гэтым: можна даведацца і пра работу супрацоўнікаў Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору, найперш фалькларыстаў, да якіх належыць і А. Ліс.

Глыбока-роздумнымі атрымаліся інтэрв'ю з В. Зуёнкам ("У высокай нябеснай "заземленасці") і У. Паўлавым ("Гаспадаром у сваёй хаце..."), багатыя на фактычны матэрыял развагі А. Іверса ("І дарога, і бездараж.."). А яшчэ ж ёсць і гутарка з П. Панчанкам "Не адцураюся, не адракуся"). Праўда, яна па ахопу падзей больш звужаная, ды як не пагадзіцца з М. Мікулічам: "Хворы паэт. Ведаючы гэта, ашчаджаючы яго здароўе, на многае не разлічваю, пытаюся пра самае пільнае, тое, што даўно смылела, не давала спакою" (гаворка адбывалася ў чэрвені 1994-га). А яшчэ гэта магчымасць услухацца ў развагі Пімена Емяльянавіча і прыслухацца да іх...

"На зломе часу" — кніга патрэбная і своечасовая і яна не пакіне абыякавым усіх, хто любіць літаратуру, культуру. Спатрэбіцца яна і настаўнікам. Вось толькі давядзецца ў асноўным разлічваць на бібліятэкі, бо тыраж яе — 500 экземпляраў!

Ды добра, што і гэта ёсць. Бо тое ж выдавецтва "Навука і тэхніка" з 1 сакавіка, як ужо былі звесткі ў друку, і зусім закрываецца.

**Тамаш ВЯРЭЙКА**

# СВЕТЛЫ РЭКВІЕМ

Пяру Аркадзя Капілава належыць нямала аповесцяў і апавяданняў. Нядаўна выйшаў зборнік яго вершаў, які быў заўважаны чытачамі і крытыкай. І вось новая кніга гэтага аўтара — **"Замкавая, 2/7"**. У нашай літаратуры даўно не было твораў, якія адлюстроўвалі б жыццё беларускіх яўрэяў з такой шчырасцю, праўдзівасцю і цеплынёй.

Першая аповесць, якая дала назву зборніку, гэта светлы рэквіем па даваенных насельніках дома на рагу ўжо неіснуючых вуліц Замкавай і Старамясніцкай, па тысячах і тысячах яўрэяў і неяўрэяў, што загінулі ў акупаваным фашыстамі Мінску. Уваскрашаючы ў памяці вобразы мінулага, уражанні дзяцінства, аўтар пераносіць іх у сённяшні дзень, дзе ёсць свае клопаты і трывогі. І робіць ён гэта лёгка, свабодна, у духу лепшых узораў лірычнай прозы.

У гэтых ацэнках няма перабольшання. У кнізе Капілава арганічна спалучаюцца дакументальнасць і мастацкасць. Замкавая, 2/7 — гэта адрас у Мінску, дзе жыла большасць герояў аўтара. Ён праўдзівы ў паказе гэтых людзей, у апісанні побыту, перадачы духу часу, бо жыў разам з імі. І здаецца, што са старонак кнігі гаворыць сама гісторыя. Мы бачым людзей, якія жылі тут, чуем іх галасы, інтанацыю гаворкі, мову мінскай ускраіны. І міжволі пачынаеш жыць іх клопатамі і трывогамі, сумненнямі і страхамі, радасцю і горам, нібы ты сам перасяліўся на Замчышча.

Замчышча заселена простымі людзьмі — хатнімі гаспадынямі, рамеснікамі, рабочымі, служачымі. І, вядома ж, дзецьмі, а значыць бацькамі і мацяркамі, дзядулямі і бабулямі. Гэта не шырокі свет, дзе людзі і месца так цесна звязаны, што само Замчышча робіцца галоўным героем аповесці.

Аўтар жыў тут усяго шаснаццаць гадоў, потым была вайна, было гета, у якім загінулі і само Замчышча, і амаль усе насельнікі дома N 2/7, а з імі яшчэ тысячы яўрэяў і неяўрэяў. Але дзякуючы аповесці яны нібыта ўваскрэслі з небыцця і прадстаюць такімі, якімі былі, калі жылі, верылі, любілі...

Тая эпоха, тыя людзі пайшлі з жыцця назаўсёды. Але тым больш каштоўная гэта кніга — помнік нашым бацькам і дзядам, помнік мінскаму Замчышчу.

Героем другой аповесці, якая быццам прадаўжае папярэднюю (аўтар называў яе "Апошняе танга"), з'яўляецца Мішка Рытаў, хлапчук з Мінска. Лёс пашкадаваў яго, ён уцёк ад жахаў гета, пакінуў з бацькамі палаючы горад і апынуўся ў Сярэдняй Азіі. Ва ўзбекскім калгасе разам з дэхканамі Мішка вырошчвае бавоўну, а потым робіцца салдатам. У яго біяграфіі шмат ад біяграфіі самога аўтара, які паспытаў і цяжкую працу, і салдацкае ліхалецце: знясільваючыя вучэнні, цяжкія маршы, бяссонныя ночы ў каравулах...

Фінал аповесці радасны і сумны. Мішка вяртаецца ў родны горад, але там няма ўжо ні сяброў, ні суседзяў, ні дома, дзе жыў. Усе трэба пачынаць зноўку.

Тэму, пачатую ў аповесцях, аўтар прадаўжае ў апавяданнях. Гэта "Аўрэмеле" і "Мотке-беларус", "У ноч на Піліпаўку" і "Доўгажыхар з Шчадрына" і іншыя. Як і аповесці, яны прасякнуты лірызмам, цеплынёй і любоўю да людзей. Іх лёсы раскрываюцца ў нялёгкіх жыццёвых сітуацыях, тым не менш, у апавяданнях ёсць месца жарту, анекдоту, трапнаму слову.

Аўтар назваў свой зборнік, на мой погляд, досыць удала. Замкавая, Замчышча — гэта яго Сцяна Плачу і наша — тутэйшая, асязальная. Гэта ўсё, што засталося ад Замкавай і Старамясніцкай, ад яўрэйскіх могілак, ад усяго мінулага жыцця. Гэта Яма на Ратамскай, гэта тое, што баліць у нашых сэрцах, гэта боль, які нас не пакідае.

**А. ЛЕЙЗЕРАЎ,**
**прафесар**

ЛіМ
ЧАСАПІС



## ЖЫВЕ ПАЭТЫЧНАЕ СЛОВА

Літаратурныя святы на Ганцаўшчыне, падобна, становяцца добрай традыцыяй. Яшчэ на памяці многіх прэзентацыя кнігі "Наўсцяж вясковай вуліцы" лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі, заслужанага работніка культуры рэспублікі Васіля Праскурава, а нядаўна гэты палескі куток сустракаў чарговых гасцей, што прыехалі адсвяткаваць 60-годдзе з дня нараджэння паэта Міхася Рудкоўскага.

Урачыстасці пачаліся вечарынай у Ганцавіцкім гарадскім Доме культуры. Людзей было шмат, зала была перапоўнена. І гэта яскравей любых слоў гаварыла аб тым, што паэта помняць і любяць, што яго паэтычная спадчына і светлы вобраз тут нікога не пакідаюць раўнадушнымі.

Вяла вечарыну Тамара Аляксандраўна Валуевіч — дырэктар раённай цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэмы. Шчыра і пранікнёна пра свайго даўняга сябра і настаўніка гаварылі паэты Алесь Каско і Мікола Пракаповіч, брэсцкія мастакі Генадзь Сурма і Пётр Зарэцкі. Яны не толькі згадвалі паэта, але і з захапленнем дэкламавалі яго вершы. Свае творы на роднай мове прачытала юная паэтка з Ганцавіч Валянціна Мохар. А потым гучалі песні на словы Міхася Рудкоўскага.

На другі дзень свята доўжылася ў Востраве — на радзіме паэта. Яно пачалося з сустрэчы ў Вострaўскай сярэдняй школе, якая носіць яго імя, з членамі школьнага літаратурнага аб'яднання "Верасок". У склад яго ўваходзяць 25 вучняў, а кіруе ім чалавек, нераўнадушны да паэзіі, шчыра ўлюбёны ў родную мову — настаўніца Вера Уладзіміраўна Паляшчук. Адбылося знаёмства гасцей і з літаратурным музеем Міхася Рудкоўскага, які створаны ў Вострaўскай школе.

Пасля наведвання магілы паэты і ўскладання кветак свята праходзіла пад адкрытым небам. Слова пра М. Рудкоўскага сказалі старшыня Ганцавіцкага раённага Савета дэпутатаў І. Стальмашок, сястра паэта Л. Рудкоўская, ягоная першая настаўніца Л. Кірэйчык, загадчыца літаратурнага музея М. Якімчык, дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь А. Свірыд і іншыя. Напрыканцы ўдзельнікаў літаратурнага свята парадавалі выступленнямі самадзейныя артысты Ганцавіцкага гарадскога Дома культуры, суседніх вёсак Кукава, Будча.

Кастусь МОХАР

## У ПАЭЗІІ — ШКОЛЬНЫ ЎЗРОСТ

Гэта было сапраўднае свята паэзіі. У сярэдняй школе N 53 г. Мінска ўшаноўвалі юных паэтаў — школьнікаў Савецкага раёна. Нагодай таму стала прэзентацыя іх паэтычнага зборніка "Родничок", выдадзенага на беларускай і рускай мовах інфармацыйна-метадычным цэнтрам "Інфатрыумф" пры садзеянні адміністрацыі раёна і раённага аддзела адукацыі.

Аўтараў "Родничка" (а ў ім пад адной вокладкай сабрана творчасць 60-ці вучняў 1—11 класаў) шчыра віталі намеснік кіраўніка адміністрацыі раёна Міхаіл Ціцянкоў, сакратар рады Саюза беларускіх пісьменнікаў Алесь Пісьмянкоў, паэт Анатоль Зэкаў, удзельнікі мастацкіх калектываў школ раёна. Прагучалі таксама і вершы юных паэтаў.

... У прадмове да кнігі народны пісьменнік Беларусі Іван Шамякін назваў яе першай ластаўкай. Дык няхай жа яна пакліча за сабой цэлы паэтычны вырай!

Наталля СІДАРЭНКА

## "ПЕРШАЦВЕТ", N 4

Проза прадстаўлена імёнамі І. Міхайлавай, Ю. Алесьнінай, Л. Вашко, А. Сугака, Н. Валынец. У "паэтычным сшытку" — творы В. Гурло, Р. Баёка, З. Падліпскай, Т. Аляксандравай, В. Савуцінай, В. Алісевіча, М. Касцялецкай.

"Фрэскі" (аўтарскае вызначэнне жанру) Я. Пархуты змешчаны ў традыцыйным раздзеле "Гасцёўня". Тут жа сусветна вядомая "Песня аб звоне" Ф. Шылера, пераўвасобленая па-беларуску А. Лойкам.

Наследаванне Мальеру ў творах Уршулі Радзівіл — тэма артыкула М. Шаваркінай "Пра местачковых парыжан". Над старонкамі кнігі паэзіі В. Стрыжака "Рэха журбы" разважае М. Віч ("У руках маіх — кніжка..."). З. Лемеш ("І загучала слова...") аналізуе пераклад "Слова лра паход Ігаравы", зроблены ў свой час Я. Крупенькам. А яшчэ ў раздзеле "Крытыка" артыкул К. Бруевай "Уводзіны ў ілюзію, або Філасофія вакол аднаго вобраза".

"Салодкае няшчасце" — развагі Х. Жычкі прапануюцца ў раздзеле "Семінар". Гэта роздум аб уласным творчым шляху і адначасова жаданне разабрацца, а што ж такое паэзія, літаратура.

А яшчэ ў нумары — успаміны А. Гутнікавай, гумарыстычныя творы Максіма Капыловіча і Віктара Жыбуля.

Паэзія

Таіса БОНДАР



## ДОЎГІ І НЯЛЁГКІ ШЛЯХ ДА БОГА...

●

Не паспрачаешся з доляю...
Нават прайшоўшы праз смерць,
Здолеем тое, што здолеем
Здзейсніць, уцяміць — паспець!

Мужнасць — адзежына ноская,
Толькі й яе данасіць...
Што ж, на зямлі гэтай Боскае
Што нам у Бога прасіць?

Шчодра, па-царску адораны
І незямным, і зямным:
Дзень не абернецца воранам,
Ноч не сажне нашы сны.

Там жа, у снах недагледжаных,
Тчэцца бязмежны абшар
Даляў, нічым не заследжаных,
Дзе ўваскрасае душа.

●

Таму, хто прысвойвае права
На Ісціну, не зразумець,
Чым вабіць шчаслівага слава,
Што дорыць пакутніку смерць.

І што ў ёй, у смерці, — за кругам,
Нябачным і страшным спрадвек,
Чыя там гуляе папруга
Па спінах духоўных калек.

Па спінах... Зусім па-зямному!
Усмешка ўяўлення, не больш,
Адно каб згадаць аксіёму:
Рэальнасць — заўсёды крадзёж.

Крадзёж у спрадвечнасці, ў духа,
У Бога! Працяг — як прасцяг,
Дзе ўсё абумоўлена рухам
Па крузе, у крузе жыцця.

●

Зноў здаецца: шчэ крок —
І абрушыцца неба...
Насупор праміпулым
І зніклым гадам,
Кроў па-зверску забітых
Барыса і Глеба —
На руцэ, што з натоўпу
Знаёмец падаў.

Кроў Хрыста — на крыжах
І на плітах кладзішча,
На якім мы жывём,
Заклінаючы смерць,
Кроў на крылах вятроў,
Што над будучым свішчуць,
Не пражытым
І ўжо амярцвелым на трэць.

Кроў, агонь яе чорны,
На сонечным вецці,
Што пранізвае
І асвятляе прасцяг...
І хто бачыць яе, гэту кроў,
Той імкнецца
Прэч, далей, хоць далей —
Гэта значыць, з жыцця...

●

Божы люд... Адна для ўсіх крыніца...
Чый бы і куды б ні вывеў шлях,
Не суджу, пакуль магу маліцца
За душу, пагразлую ў грахах.

Не суджу й пасля. Адно з пакутай,
З горкім смуткам пазірае ўслед:
Згінула, згібее ў цемры лютай
Не душа, а ў ёй ускрэслы свет.

На жыццё, або на міг, ускрэслы,
Каб прадоўжыцца й прадоўжыць круг
Хоць на крок, які агучыць песня,
Хоць на ўздых, на ледзь прыкметны зрух.

Доўгі і нялёгкі шлях да Бога,
Мо й не ўсім, не кожнаму дайсці...
Памагчы б! — не прымуць дапамогу,
Паказаць бы! — веры не знайсці.

А без веры... Нельга пад прымусам
Стаць відушчым, і ступіць за край,
Змогшы і адпрэчыўшы спакусу
Як заўгодна, а здабыць свой рай.

Рай без Бога? І цяпер? І тут?!
Бедны, заблукалы ў цемры люд!

●

Як дапаможаш тым, хто не прымае,
Не прыме дапамогу ад мяне,
Засвоіўшы, што лепшы шлях — прамая,
Якая ўсе сумненні абміне?

Прамая... Бы ўзапраўду льга правесці
Прамую з пункту А ў бязмежнасць Б
І ёй, па ёй, дайсці, дапяць, далезці
Як не да зор, то хоць бы да сябе.

Бы і ўзапраўду лепшы шлях — падманны,
Падманны, але звыклы для сляпых,
Калі на жменю абяцанняў танных
Выменьваецца будучыня ўсіх.

І зноў спадзеўкі... На цара. На змены,
Якія змена трона прынясе.
На новы час, такі ж, як скрозь, разменны
На новыя "авось" і "пакрысе".

Як дапаможаш тым, хто дапамогу
Адштурхваў скрозь і зноўку адштурхнуў,
Хто адвярнуўся ад сябе і Бога,
Забыўшыся на даўнюю віну?

●

Цень птаха, што ўстаў на крыло
І ў руху, самім гэтым рухам
Адсек, адцясняе святло,
Раптоўна ўяўляецца духам.

Не духам бязмежных вышынь,
А духам Зямлі — апраметнай,
Дзе сёння няма ні душы,
Гатовай сустрэцца з Сусветам,

Гатовай адпрэчыць, адцяць
Усё, што агорана й зжыта
За тысячагоддзі жыцця
Над чорнаю прорвай Нябыту.

Казімір КАМЕЙША



Адзор'і. Такое вызначэнне формы ўзнікла неяк само сабой. Гэта зусім не самамэта. Гэта — тое, што між іншым з'яўлялася, асацыятыўна адгаліноўвалася, адслойвалася пры напісанні вершаў. Думаю, што і яно мае права на існаванне.

АЎТАР

## АДЗОР'І

●

Паляна на лесапавале
Даўно ўжо сталася магільнікам.
Як помнікі, пні іржавеюць.
І нават чытаюцца даты
На зрэзе кругоў гадавых.

●

Пропуск патрабуючы у вечнасць,
Абабіў мой сябра ўсе парогі.
Ну а там на век ці, можа, болей
Аб'явілі, кажуць, перапынак.

●

Расы ў гэтай раніцы малавата
Нават каб вераб'ю пакупацца
І салаўю — прамачыць горла,
І мне на слязу,
Каб аплакаць няшчасную нашу прыроду.

●

Адрунела зямля,
А цяпер рунее халоднае неба,
І адразу ж цяплее
У зялёных тваіх вачах.

●

Шляхам адным у вырай
Гусі ляцяць і вяртаюцца.
А вырай гадоў маіх
Столькі знаходзіў шляхоў
І ўсе... без вяртання.

●

Высокая брама ў гэтым двары
І злосны выжлятнік самы.
І злосную запаведзь "Не зайдзі!"
Двор гэты мае таксама.

●

На кірмашы найбагатым
Лёгка адчуць,
Які ты ёсць бедны усё ж,
Чалавеча.

●

Чыноўныя дзверы
Збіты з цішыні, хітрасці,
Паслушэнства
І страху,
Што іншы чыноўнік іх заваюе.

●

Мурашыны рух па зямлі —
Гэта і ёсць рухомасць мая,
Якая, ў адрозненне ад нерухомасці,
Не прадаецца.

●

Якая хоць там гадзіна ў вас
На цыферблаце націі? —
Пытаю нашчадка
І чую адказ:
— Яшчэ не ўзыходзіла сонца.

●

Была тут калісьці грэбля.
Тут гразлі людзі і коні.
І ў памяці думка завязла:
Хай бы была тут грэбля.

●

У забытых дварах
І забітых вокнах
Жыве чаканне.
А які ў яго век?
Сам век і адкажа.

●

Яшчэ пры жыцці
Яму паставілі помнік.
Яшчэ пры жыцці
Яго пахавалі.

●

Які скупы пайшоў чалавек,
Нават пашкадаваў "Дзень добры".

●

Лічыць гады мае не зязюля,
А тая бяроза, якую
Я пасадзіў у дзяцінстве.
— О, як пастарэў ты, браце! —
Сягоння яна мне сказала.

●

Той, хто моду стварае, —
Трыумфатар часовы.
А хто крочыць за ім,
Нават след свой губляе.

●

Згубіў я ўсе шанцы
Знайсці сваё шчасце.
Дурань, некалі шчасце шукаў,
А цяпер яшчэ й шанцы шукаю.

●

На першую споведзь я мог бы не йсці —
Грахоў не было за душою.
А сёння, калі іх прыдбаны цяжар, —
Ісці — не ідзецца.
Ды й хто іх адпусціць?!

●

Самаадданасці вучыцца трэба ў кветак,
А працавітасці — у пчол,
А дабрыні і ласкі — ў маці.
Настырнасці ж навучаць графаманы.

●

Цягнік гадоў маіх
Імчыць імкліва,
А доля недзе ў тамбуры трасецца.

●

Ноч...
Неба прымерзлае да зямлі.
А возьмешся ранкам за клямку —
Руку апякуць халодныя зоры.

●

Рэчка — як доўгая рыбіна.
З блакітнаю лускою хваляў,
З плаўнямі чорных чаротаў.
Баюся ў жыцці аднаго:
Калі-небудзь хвост яе ўбачыць.

●

Бязладдзе розуму й душы
Уладаю ніякай не паправіць.
Тут мусіць быць і прага ладу.

●

Заўсёды баяўся сустрэць дзівака,
Што крочыць з пустым вядром
Ад калодзежа.
Баяўся... пакуль не высах калодзеж.

●

На бяду многа й не трэба,
Часам дастаткова пра яе падумаць.

●

Ці не жабрачкай зямля мая сталася:
Летам просіць дажджу,

**Цень птаха, што ўстаў на крыло,**
**Трывогу адно навлічыць...**
**Цень смерці? Адкуль жа святло?**
**Куды яно вабіць і кліча?**

●

**Праз тоўшчу аблокаў зіхоціцца, ззяе**
**Бязмежжа, ў якім патанае пагляд —**
**Пагляд, і дарога, і ціша скразная,**
**І гэтаю цішай засыпаны сад.**

**І мроіцца вёсны, што ўжо прашумелі,**
**І доўжыцца, доўжыцца, доўжыцца рух**
**У далеч, праз згадкі,**
**праз цёмны іх вэлюм, —**
**На ззянне, якім замыкаецца круг.**

**Не чуе душа ні трывогі, ні жалю,**
**Бы ведае пэўна, як ведала скрозь,**
**Што ўсё — і ўзвышэнне —**
**ідзе па спіралі,**
**Спрадвек нанізанай на гнуткую вось.**

**Куды яна гнецца, чым намаганнем**
**Трымаецца Зоркі Паўночнай, не нам,**
**Не мне высвятляць,**
**перад новым выгнаннем...**
**Уцягвае далеч, знаёмая снам.**

**Праз тоўшчу аблокаў зіхоціцца, ззяе**
**Бязмежная, поўная музыкі шыр,**
**Што толькі ў імгненне сустрэчы пазнае**
**Калі не мяне, то памкненні душы.**

●

**Жыццё падганяе, ці смерць,**
**Не ўведаць, не скінуўшы путаў,**
**Усё, што спадобішся мець,**
**Займееш праз кроў і пакуту.**

**Праз кроў і пакуту... Працей,**
**Здаецца, адпрэчыць дарогу!**
**А ношка сумненняў расце,**
**І ўжо не вытрымваеш змогу.**

**І мусіш вытрымваць! Няхай**
**Палае і гасне за спінай**
**Цяжкі ад грамоў небакрай,**
**Гучыць: ты павінна! павінна!**

**Павінна! — адно, каб і тут,**
**Сярод несціханае бітвы,**
**Адбыўся для некага цуд**
**Любові, натхнення, малітвы.**

**А зімою — снегу**
**І вечна — літасці.**

●

**Тры будзільнікі будзяць вясковую раніцу:**
**Спачатку — певень,**
**Пасля — гаспадыня**
**І нарэшце — калодзеж.**

●

**Не пушчанскі ты хлапец —**
**Тут няма сумневу, —**
**Бо ў мелодыі пілы**
**Плач не чуеш дрэва.**

●

**Калі пойдзеш спаць на сена,**
**Не праспі травы малітву.**
**Ну і там, бліжэй да неба,**
**Сам яшчэ раз памаліся.**

●

**Гора маё**
**Аб шчасце тваё спатыкнулася.**
**І не здзівілася шчасце тваё,**
**І не сумелася,**
**А гору майму яшчэ больш забалела.**

●

**Колькі б гадоў ні пражыў ты на свеце,**
**Вечнасць аддасць табе**
**Толькі хвіліну.**

●

**Пад ляжачы камень не цячэ вада —**
**Пад ляжачы камень цячэ бяда.**

●

**Калі ўжо й зязюля з гадзінніка**
**Хлусіць табе пачынае,**
**Значыць, нешта не тое**
**Дзеецца з нашай Праўдай.**

●

**Усім дзяліўся я з табой —**
**Святлом, цяплом і слотай.**
**Што не падзеліш на дваіх,**
**Дык гэта адзіноту.**

●

**Мы часта адступаем.**
**Адступаць**
**Зусім, зусім не справа гераічная.**
**Калі ўжо і згадзіўся адступаць,**
**Дык адступленне будзей хай**
**Лірычнае.**

●

**Кола заўсёды хоча**
**Перахітрыць дарогу.**
**А чалавек — сваю старасць.**
**Ды ў Часу свае законы,**
**Ён, Час наш, — хітрэй чым хітрасць.**

Проза

Міхась ДАНІЛЕНКА

# АБРАЗКІ



## "УСЁ ПРАДАМ..."

Прыбіўся гэты чалавек у Вішнякі неяк адразу пасля вайны. Ліхалецце і гора пакінулі адбітак у выцвілых Максімавых вачах: у іх амаль заўсёды стаяў сум. Прыстаў ён да ўдавы Ульяны.

То быў хударлявы мужчына з моцна пасівелай чупрынай. Нягоды пакінулі сляды на яго прадаўгаватым твары. Спачатку Максім неяк цураўся мужчын, усё наравіў не быць навідавоку. Толькі калі прыносіў Ульяне палучку з бліжняга торфазавода, дзе тады працаваў, дык быццам перайначваўся. Браў гармонік, што пыліўся ў кутку каля печы (першы Ульянін муж, які не вярнуўся з вайны, няблага на ім іграў), расцягваў мяхі, звешваў над планкамі галаву і заводзіў: **Усё прадам, гармонь пакіну...**

Мусіць, далей гэтых слоў Максім не ведаў. Ён тузаў мяхі ў гармоніку, матляў галавой, бы конь, які адбіваецца ад аваднёў, але ні ладу, ні складу ў чалавека не атрымлівалася: не ўмеў іграць.

Затое вішнякоўцы адразу ж прыляпілі Максіму мянушку. Звычайна адзін у другога пыталіся:

— Ты не бачыў сёння "Усё прадам"?

— Не. А што? Ён абяцаў мне пачак махоркі з торфазаводскай крамы прывезці. Штосьці запазніўся. Можа, заработак абмывае?

Сказаць, каб Максім злоўжываў тым абмываннем, нельга. Амаль усё, да апошняга рубля, аддаваў Ульяне.

— Бяры, жоначка, — гаварыў Максім. — Я вось, грэшнай справай, удвух з брыгадзірам апаражніў бутэльку. Але ж, ліха матары, нарэзаў столькі тарфяных цаглін — не раўнуючы гару. Ледзь спіну разагнуў. Няхай сохне цяпер.

Зрэдку ў такія хвіліны Максім расказваў Ульяне пра далёкую Францыю, пра вінаграднікі, пра шчырых, добрых французаў.

Жонка ўважліва слухала, а потым пыталася:

— Дык чаго ж ты не застаўся сярод французаў, калі табе з імі было так люба?

Радасць на Максімавым твары ўмомант змянялася ценем. Здавалася, на ім паяўлялася нябачная павуціна.

— Нічога ты не разумееш, жонка, — хрыплым голасам гаварыў "Усё прадам". — Не чула ты ні пра макі, ні пра горы, ні пра вінаграднікі.Не ведаеш і слоў "Бонжур, камарад..."

Урэшце, тое, пра што расказваў муж, для Ульяны было, як кажуць, за "сямю замкамі". Яна не цяміла ні пра горы, ні пра ратушу, пра якую часам успамінаў Максім. За сваё жыццё Ульяна толькі раз ці два пабывала ў абласным горадзе. Адзін раз, калі яшчэ да вайны дзяўчынай набывала з бацькам пасаг, а пасля — як трэба было афармляць пенсію...

А праз нейкі час Максіма затрымалі ў раённым аддзеле дзяржаўнай бяспекі. Казалі, звазілі нават у абласны цэнтр: нешта цёмнае адшукалі ў ваеннай біяграфіі Максіма. Нейкі маладжавы ў ваенным кіцелі нават прыязджаў да Ульяны і ўсё дапытваўся: пра што расказваў муж, калі выпіваў шклянку і хмялеў.

— Не буду браць грэх на душу, чалавеча, — гаварыла Ульяна. — Неблагі ён мужык. Ды быццам на яго зрэдку находзіць што і ўсё пра Францыю ўспамінае. Кажа: ваяваў там...

— Ведаем мы, як ён ваяваў, — крыва ўсміхнуўся ў кіцелі. — Гэта трэба яшчэ разабрацца, як ён у той Брэтані апынуўся.

Праз месяц-другі "Усё прадам" вярнуўся ў Вішнякі. Але, здавалася, гэта быў зусім іншы чалавек. Перад Ульянай стаяў прыгорблены сівы дзядок. Рукі трэсліся, і ён сарамліва хаваў іх у кішэні галіфэ.

Цяпер гармонік, як непатрэбная рэч, вісеў каля печы. Максім спраўна хадзіў наразаць торф (уручную), сёе-тое рабіў па гаспадарцы. Ён амаль ніколі ўжо не спяваў "Усё прадам, гармонь пакіну..."

Памёр ён у адзін з ціхіх асенніх дзён, калі на клёне, што рос перад Ульяніным домам, барвай пакрылася лістота. Якраз тады на гародах вішнякоўцы спальвалі сухі бульбоўнік і траву. Белы дым слупамі цягнуўся ў неба. На вішняку чародкамі сядзелі шпакі — збіраліся да блізкага адлёту.

Ульяна намнога перажыла другога мужа.

...Праз некалькі гадоў на Максімава імя прыйшоў тоўсты пакет з далёкай Францыі. Аказваецца, "Усё прадам" ваяваў у атрадах Супраціўлення. Аб тым гаварылі дакументы, крыж і медаль, што прыйшлі з пасольства.

— Вось як бывае, — гаварыла жанчынам Ульяна. — А я ж, далібог, думала — блазнуе ён... Ды цяпер што аб тым гаварыць! Няхай яму там спакойна спіцца...

## ТРОЕ Ў ПЕКЛА

Вясна была ранняя. Снег, якога за зіму выпала мала, на ўгрэвах растаў неяк раптоўна, непрыкметна. Колькі дзён са стрэх цурчэлі капяжы, а потым прыйшоў дзень, калі Анатоль Іванавіч пачуў жаваранка. Пачуў, можа, упершыню, хоць жыў у гэтай лясной вёсачцы трэці год — з таго часу, калі пайшоў на пенсію і купіў сабе тут закінутую хату з гародам.

Птушачка — маленькі цёмны камячок — трапяталася ў празрыстым паветры і рассыпала над зямлёй радасны шчэбет. У апошнія гады Анатоль Іванавіч жаваранкаў чамусьці не сустракаў: мусіць, хімікаты, якія спорна рассейвалі над палямі, нішчылі і вывадкі жаваранкаў, і кнігавак, і берасцянак.

— Будзем сеяць, — радасна паведаміў жонцы Анатоль Іванавіч.

Яна заўсёды з ім згаджалася. Не здзівілася, калі ён — кандыдат навук — рашыў, можна сказаць, на старасці асесці на вёсцы. У іхняй гарадской кватэры цяпер жыла дачка з зяцем. Наведваліся да іх бацькі толькі зімой.

Жаваранак аж заліваўся над полем. Анатоль Іванавіч рашыў папрасіць у вяскоўцаў барану. каб забаранаваць раллю, дзе сусед пасеяў яму авёс. З жыўнасці былі толькі куры, і трэба было загадзя дбаць, чым іх карміць.

Сусед працаваў даглядчыкам на ферме і без лішніх слоў узараў (плуг ён меў) і пасеяў.

— А барану, Іванавіч, шукай сам, — сказаў ён. — Няма ў мяне яе.

Гэта было сапраўднай пакутай — ісці выпрошваць тую барану. Анатоль Іванавіч з жонкай ведалі, як неахвотна давалі жыхары ці плуг, ці барану, ці якую аброць або пута для каня. Ліха іх ведае, адкуль яны прыдбалі тыя плугі ці бароны. Але наўрад ці купілі. Урэшце Анатоль Іванавіч з ахвотай купіў бы ў горадзе якую-небудзь патрэбную для гаспадаркі прыладу, ды ні разу ў гаспадарчых магазінах, акрамя пластмасавых выбівалак і цяжкіх, быццам адлітых з чыгуну, грабель, нічога не сустракаў.

Здавалася, для жыхароў гэтай вёскі час застыў некалькі дзесяткаў гадоў назад. Тут амаль не глядзелі перадач па тэлевізары, нават навін. Адкрыта зайздросцілі адзін аднаму. Складвалі на ашчадныя кніжкі рублі, а пасля — "зайцы". Урэшце, як думаў Анатоль Іванавіч, многія з іх проста былі злыднямі. А гэта было дзіўна бачыць у наш час. Анатоль Іванавіч ведаў: грошай у іх было больш, чым у яго, кандыдата навук. А ніводзін жа не паспытаў каньяку ці шакаладу.

У бліжнім двары, дзе жылі Адам і Стася, Анатоля Іванавіча сустрэла гаспадыня — поўная, пудоў на сем.

— Можа, па якой патрэбе да нас завітаў, Іванавіч? — ветліва сустрэла госця Стася.

— А дзе ж Адам — першы на Зямлі чалавек? — пажартаваў Анатоль Іванавіч.

— Ай, у лес падаўся. Дроў жа няма ні паленца.

Анатоль Іванавіч ведаў: у Адама і Стасі колатымі дрывамі былі набіты, як кажуць, пад завязку і хлявец ля кароўніка, і спецыяльна зроблена для гэтага пуня. Але далікатна прамаўчаў.

— Дык гэта ж я барану хацеў у вас папрасіць: авёс пасеяў.

Стасін твар адразу пасуровеў. Жанчына падціснула вусны, сашчапіла на жываце рукі, адмоўна пакруціла галавой.

— Няма той бараны. Усе кляцы, Іванавіч, павыпадалі. Казала ж свайму лядашчаму, каб заказаў у майстэрні тыя кляцы, дык ён толькі па лесе снуўдаецца.

Калі Анатоль Іванавіч выходзіў з двара, дык каля прыгрэбка заўважыў барану. Зубамі яна блішчэла на веснавым сонцы...

Яшчэ ў двух ці трох дварах Анатолю Іванавічу адмовілі, і ён ужо хацеў ні з чым вяртацца дадому (няхай яе ляд — тую барану). А потым рашыў пайсці аж у дальні канец вёскі, да лесніка Івана. "Калі і той адмовіць, — падумаў, — дык буду з жонкай граблямі баранаваць той пракляты авёс..."

Амаль усе жыхары вёскі дажывалі свой век на пенсіі. Калі якая кабета кволілася, дык прыходзіла да жонкі Анатоля Іванавіча і прасіла:

— Дай, даражэнькая, пілюлек.

І вельмі дзівіліся, калі даведаліся, што тая ніколі не рабіла фельчаркай, а некалі была настаўніцай.

Анатоль Іванавіч цёгся ў дальні канец і ўспамінаў другую барану — жалезную, цяжкую, можна сказаць, смяротную. Іх называлі "трое ў пекла". Пад Смаленскам немцы іх — палонных — запрагалі ў бароны і прачэсвалі міннае поле.

Ніколі Анатоль не верыў у бога, а калі з такімі, як сам, у сорак першым цягнуў барану, дык шаптаў: "Божа, праняслі, не дай наступіць на міну..."

Раз за разам грымелі выбухі. У паветра з непрыемным гарам узляталі то рукаў гімнасцёркі, то абмотка, то салдацкі чаравік без абцаса...

Іхняй "тройцы ў пекла" пашчасціла: яны выжылі. Праўда, тыя, хто цягнуў з ім барану, загнуліся ад дызентэрыі ў лагеры. А Анатоль Іванавіч вось ідзе вуліцай да Івана па іншую барану. Ён нават на момант прыпыніўся: здалося, з бліжняга лесу патыхнула на яго тым смуродам з далёкага ваеннага года...

Ляснік Іван, на шчасце, быў дома.

— Калі ласка, — прапанаваў ён. — Я, як буду канём ехаць у лес, ускіну на калёсы і барану. Сам і прывязу...

# "КАЛІ Б ЁН НЕ БЫЎ У СПЕЦХРАНЕ..."

***Тое, што тэатр "Дзе-Я?" грунтоўна й паслядоўна ставіць Францішка Аляхновіча, здаецца, ужо не здзіўляе, не бянтэжыць, не раздражняе. Мастацкі дырэктар тэатра Мікола Трухан мяркуе, што мэтанакіраванае захапленне Аляхновічам усё-такі трэба вытлумачыць:***

— Мы, дзееўцы, у Аляхновіча знайшлі ўсё тое, чаго так бракуе беларускай драматургіі: і... Чэхава, і... Дастаеўскага... Сваёй спакутаванасцю стаўся нам блізкі Аляхновіч. Асабліва калі пасля "Чорта і бабы" ўбачылі касмізм "Страхаў жыцця" й "Ценяў". Адчулі, што не трэба з ім, Аляхновічам, спяшацца, — ставіць, увасабляць, даводзіць. Першы спектакль, які рабіўся спакойна, — кантамінацыя паводле двух апошніх згаданых твораў. Без выездаў, гастроляў. Ціхая праца. Таямнічая. Адлёт душы... А "Круці..." ды "У кіпцюрох ГПУ" — гэта развітанне. Бо кожным Аляхновічавым словам мы даражым. Шукаем, кантамінуючы, сутыкаючы творы, праўдзівых пунктаў судакранання, унікаем штучнасці, канцэптуальнасці ў горшым сэнсе. Хіба ў "Круці..." можа не ўразіць тое, што Мастак аддае жыццё Смерці, каб існавала Гармонія?

**— Мікола, вы пачыналі, памятаецца, з "Ладдзі роспачы" паводле Уладзіміра Караткевіча. Суадносіны, паразуменне мастака (у Караткевіча — улюбёнца жыцця) і Смерці ўжо браліся вамі пад увагу. Мастак з новага спектакля — гэта працяг адной з асноўных Труханавых тэм у мастацтве?**

— Гэтая тэма ўзнікла для мяне ў 1974 годзе, калі мы з Віталем Баркоўскім рабілі "Сотнікава" ў Краснаярску. Паводле Васіля Быкава. Цяпер і наша рэжысёрская жыццё імкне... да канца. Што такое смерць? У чым сэнс гэтага канца? А што такое чалавечая падвоенасць? А як адлятае душа? Як яна блукае? У чым сэнс яе нязменнасці? Аляхновіч даў нам штуршок для асэнсавання часу Люцыпара ў нашым свеце. У "Круці..." — канфлікт акцёраў з аўтарам, і калі канфлікт узбуйняецца, акцёры робяцца персанажамі...

**— А сапраўднага канфлікту з Аляхновічам (з тэкстам, фабулай, паваротамі і г. д.) не надаралася?**

— За кошт таго, што "Кіпцюры..." дапамагалі думкамі, якія прыдаваліся то да падтэксту, то да маналогаў, непаразуменняў з аўтарам не было. Стаўленне да Аляхновіча ў тэатры — як да бога драматургіі. "Дзе-Я?" пад ягоным моцным уплывам, якога не так проста будзе пазбыцца.

**— "Круці...", значыць, развітанне. Тэмы вычарпаліся? Або творы, прыдатныя для вашых пастановак?**

— Аляхновіч збольшага сам паўтараецца. Мы ж выбіралі тое, што вастрэй ды трапней адчувалі, што бліжэй і нам, і часу. А мо і мы падманваем самі сябе... Схадзілі ў адзін бок, у другі бок, а здаецца, што дарогі больш няма... Праўда, няма сэнсу нам паўтарацца. Але былі выпадкі, калі на рэпетыцыях, і на спектаклях здавалася, што... Аляхновіч побач. Мы не вар'яты, дый выпадкаў калектыўнага здурнення, збачэння ў тэатры не прыгадаю. Відаць, зрабіўся ён нам блізкі да такой вось ступені — ягоны жыццёвы подзвіг, відаць, шмат што значыць для нас. Быў на спектаклі Валодзя Арлоў. Расказаў, што яшчэ перад вайною віленскі чарнакніжнік прадказаў Аляхновічу страшны лёс. Маўляў, нават магілы ягонай не застанецца. І — не засталося. Хіба сімвалічны камень цяпер... Хацелі ўсім тэатрам на ўгодкі з'ездзіць у Вільню, але гэта - візы, долары... Мяркуецца, што Аляхновіч адштурхнуўся ад Пшыбышэўскага ды новае драмы Ібсена. Але Аляхновічавы матывы пакладзены на адметную беларускую мову ("шэрае алавянае неба наплывала на чалавека, абдымала яго душу..."). Вобраз пры вобразе! Яны проста вымагаюць ўвасаблення. Наша невялікая тэатральная пляцоўка ўвогуле спрыяла Аляхновічу, бо ён драматург буйнога плана. Вачэй. Рук. Дыхання. Паўтаруся: Аляхновіч, з нашага пункту гледжання, драматург таямніцы. Здаецца, самі магчымасці чалавека яшчэ не дазваляюць гэтую таямніцу наблізіць ды спазнаць. Таму мы шчыравалі над унутранымі маналогамі. Таму рабілі імправізацыі там, дзе ў Аляхновіча пропускі...

**— Ці варта каменціраваць такую паслядоўную... апантанасць Аляхновічам? Можна згадаць досведы "Абзаца" (тэатра-студыі ўжо не існуе) ды Альтэрнатыўнага тэатра, але яны — адзінкавыя. Захапленне Аляхновічам у вашым тэатры — гэта вынік жыццёвых перакананняў або мастакоўскіх схільнасцяў?**



— Ён шмат даў мне як чалавеку сённяшняга дня. Трэба дзесьці браць сілы ды цярпенне... Не ўяўляю, што было б, калі б ён не быў у спецхране: колькі б праз яго, Аляхновіча, з'явілася б новых цікавых драматургаў, празаікаў! Мы — маленькі тэатр. Мы не маглі ставіць сабе за мэту вярнуць да ўжытку ягоную спадчыну. Але быць сумленнымі ў дачыненні з ёю імкнуліся.

Гутарыла **Жана ЛАШКЕВІЧ**

*Фота Аляксея МАЦЮША*

# У ПРЫСУТНАСЦІ АЎТАРА...

***З сакавіка 1944 года на сваёй кватэры ў Вільні стрэламі ў патыліцу быў забіты Францішак Аляхновіч. Ён не дажыў да дня свайго нараджэння, да 9 сакавіка. Смерць не была для яго нечаканай. Ён чакаў яе і пісаў сваю апошнюю п'есу. Камедыю. "Круці не круці, — трэба памярці", — горка ўсміхнуўся пісьменнік у апошні раз. Гэты твор у Ф. Аляхновіча — адзін з лепшых...***

Невыпадкова менавіта ён разам з успамінамі "У кіпцюрох ГПУ" зрабіўся для Мікалая Трухана падставаю для спектакля, які называецца "Круці не круці, — трэба памярці". Прэм'ера адбылася 3 сакавіка і была прысвечана трагічнай даце — угодкам Ф. Аляхновіча.

Жанр сваёй п'есы аўтар вызначае як "сцэнічны гратэск у шасці абразках з пралогам". Яна напісана паэтычнай, сакавітай, выразнай беларускай моваю. Ды й персанажы тыповыя для беларускай літаратуры — Мужык, Алхімік, Смерць, Чорт, Рыцар, Ведзьма, Жыд — карацей кажучы, народ. Дый сюжэт вядомы — Мужык злавіў Смерць у мяшок, занёс да Алхіміка, які схаваў яе ў бочку са спіртусам. Здаецца, людзям павінна быць добра без яе. Але паўстаюць нячысцікі на чале з Люцыпарам ратаваць Смерць. Паміж радкоў мімаволі пачынае праяўляцца іншы сэнс, калі ўспомніць абставіны напісання п'есы. Словы быццам брыняюць крывёю, робяцца цяжкімі і горкімі. Раптам становіцца зразумелым, па чыё жыццё выпраўляецца спадарыня Смерць у горад Вільню. І ўжо не ўзнікае пытання, чаму спектакль робіцца на падставе такіх непадобных на першы погляд твораў, як "Круці..." і салавецкіх мемуараў "У кіпцюрох ГПУ". Нельга сказаць, што ў спектаклі выкарыстаны які-небудзь з гэтых твораў цалкам. Хутчэй, фабула і персанажы пазычаны з п'есы, а вось атмасферу, якой дыхае спектакль, спараджаюць успаміны "У кіпцюрох ГПУ". Гэты спектакль — пратэст супраць таталітарызму, гвалту, тэрору. Таму і не здзіўляе трактоўка вобраза Люцыпара, які не звужаны да алегорыі Люцыпар-Сталін, а мае глыбейшы сэнс.



Спектакль уяўляе сабою гратэск. У ягоную атмасферу глядач трапляе, як толькі ўваходзіць у залу, якая ў тэатры "Дзе-Я?" вельмі спецыфічная. Месцы для гледачоў рухомыя, іх размяшчэнне мяняецца ў залежнасці ад патрэб спектакля. Сцэнаграфія вельмі аскетычная. Аснова — чорны кабінет. У вялізных бутэльках на чорным тле іскрыцца ярка-блакітная вадкасць. Узнікае слабае, амаль няўлоўнае адчуванне клінікі або шпіталю. З розных бакоў пачынаюць з'яўляцца персанажы ў нейкім незвычайным, але адметным адзенні (мастак І. Падлівальчаў). Стракатая група людзей няспынна гамоніць, рухаецца — маляўнічае відовішча. Чалавек, апрануты ў шэрае, раптам спыняе дзеянне. Прымушае акцёраў паўтараць першую сцэну колькі разоў. Няцяжка здагадацца, што гэта Аўтар — той, хто стварыў гэтых людзей і хто мае над імі ўладу. Але і прыдуманыя істоты таксама маюць пэўны ўплыў на Аўтара. Яны спрачаюцца, лапракаюць, крычаць, часам не падпарадкоўваюцца. Яны ўжо жывуць побач з ім і адначасова ў яго свядомасці. Такім чынам нібыта задаецца форма спектакля — рэпетыцыя. Але дзеянне не захоўвае цэласнасці. Яно разгалінаўваецца так моцна і так імкліва набывае хаатычнасць, што становіцца цяжка ўспрымаць спектакль як... спектакль. Як нешта адзінае. Ён быццам развальваецца на мноства яркіх цікавых кавалкаў, кожны з якіх робіцца асобным спектаклем. Нават драматургія не здольная сабраць гэта ўсё на агульны стрыжань, бо сюжэт п'есы выяўляецца пункцірам. Прынцыпы пабудовы дзеяння — фрагментарнасць, асацыятыўнасць, шматслойнасць, алагічнасць.

Сцэна сустрэчы Мужыка і Смерці прымушае нас узгадаць цэнтральную тэму, што яшчэ перад спектаклем панавала ў атмасферы залы і якую перабіла з'яўленне стракатага натоўпу. Тэма клінікі ў спектаклі заяўлена пэўна й настойліва. І чым бліжэй да фіналу, тым мацней яна гучыць і разрастаецца. Спачатку ў якасці ложка з'яўляецца шпітальная каталка, а потым у руках акцёраў з'яўляецца медыцынскі рыштунак, бутэлькі з блакітнай вадкасцю ператвараюцца ў кропельніцы з эліксірам жыцця, у эпізодзе можам пабачыць засміральную кашулю, а ў фінале, у сцэне ажыўлення Смерці, усе акцёры ў доктарскіх халатах.

На працягу прадстаўлення пляцоўка яўляе сабой нейкі фантастычны шпіталь, дзе змяшчаецца лабараторыя Алхіміка, дзе паспяхова вядзе свой рэй Люцыпар. У гэтым шпіталі пануе Смерць. Узмацняецца пачуццё жаху, безабароннасці і фатальнай наканаванасці, бо клініка гэта незвычайная. У ёй не ратуюць ад смерці, а наадварот — аддаюць у яе "кіпцюры". Тут сапраўды — круці не круці, а трэба памярці. Не адступае адчуванне замкнёнай прасторы. Нейкім чынам у яе замкнёнасць уцягваецца глядач, які апынаецца не апошняй дзеючай асобай! Асабліва востра адчуваецца гэта ў сцэне балю Люцыпара, калі ў напружанай цішыні Тамара Міронава (яна выконвае ролю Люцыпара) ідзе паўз рад і цягнецца да якога-небудзь з гледачоў — рухаецца. Апранутая ў недарэчны мундзір, на вачах — чырвоныя акуляры, але і ў галаву не прыходзіць смяяцца з яе. Яна выклікае жах. Не знешнім выглядам, а непрадказальнасцю. Пачвара, у чыіх руках улада...

Поспех гэтага спектакля залежыць ад ігры акцёраў, ад узроўню іх майстэрства, ад здольнасці вытрымліваць ансамбль. Нягледзячы на своеасаблівы спосаб існавання, трупа здолела стварыць гарманічны ансамбль і пры гэтым не згубіць ні індывідуальнасць персанажаў, ні сваёй акцёрскай непаўторнасці. Галіна Чарнабаева (Смерць) вылучаецца здольнасцю як мага засяродзіцца на сваім унутраным стане падчас выканання, нават калі роля не вымагае глыбокіх псіхалагічных перажыванняў. "Круці не круці..." — гэта тэатр прадстаўлення. Перад намі парад масак. Але, стварыючы свае сцэнічныя вобразы, акцёры Аляксандр Якаўлеў (Алхімік), Ігар Нікалаеў (Мужык), Алег Раткевіч (Сыльвук), Таццяна Папова (Ведзьма), Святлана Яцэвіч (Агапка) не абмежаваліся наборам знешніх эфектаў. Вобразы набываюць аб'ёмнасць дзякуючы ўнутранаму акцёрскаму жыццю. Адзіны, хто быццам бы вызываецца спосабам існавання з ансамбля, — Ігар Падлівалічаў (Аўтар). Ягоны персанаж, здаецца, жывы чалавек, не тое, што істоты, якія круцяцца вакол. Калі ж прыгледзецца пільна, дык і Аўтар — такі ж... неканкрэтны, як і ягоныя персанажы. У яго няма імя. Як асоба ён не надзелены ніякімі рысамі індывідуальнасці ў адрозненне ад сваіх каларытных, сакавітых, маляўнічых стварэнняў.

Імя Францішка Аляхновіча не гучыць на працягу спектакля ні разу, але дзейная асоба Аўтара — незвычайная фармальнасць. Спектакль дае магчымасць засяродзіцца на светаадчуванні, настроях і тым, чым жыў Аляхновіч апошнія гады... Засяродзіцца так, што... сама прысутнасць Аляхновіча сярод гледачоў, здаецца, не здзівіць.

**Іна САБАЛЕЎСКАЯ,**
**студэнтка Беларускай акадэміі мастацтваў**

*На здымку: сцэна са спектакля "Круці..."*
*Фота Аляксея МАЦЮША*

# ЯГО РАДЗІМА — УСЯ БЕЛАРУСЬ

Створаны і робяць першыя крокі грамадскія фонды, якія носяць імя знакамітых сыноў Бацькаўшчыны. Мы паведамлялі нядаўна пра стварэнне Міжнароднага фонду Янкі Купалы. Не так даўно з'явіўся аналагічны фонд, звязаны з імем класіка нацыянальнай літаратуры Максіма Гарэцкага. І вось — працяг добрай справы: перад майскімі святамі прайшоў установчы сход, на якім быў створаны Міжнародны фонд Якуба Коласа.

Няма, відаць, патрэбы нагадваць, наколькі вялікі ўклад Я. Коласа ў развіццё беларускай літаратуры, нацыянальнай культуры, як шмат зрабіў ён дзеля пабудовы агульнага беларускага дома. Досыць назваць, к прыкладу, толькі тры яго несмяротныя творы — "Новая зямля", "Сымон-музыка", "На ростанях"... А Колас жа — яшчэ і выдатны мовазнавец, актыўны грамадскі дзеяч...

Пра ўсё гэта і гаварылася ў час установчага сходу, старшынёй якога быў выбраны акадэмік Акадэміі навук Беларусі І. Навуменка, які вельмі шмат зрабіў для прапаганды творчасці і ўшанавання памяці слыннага песняра. Іншыя ўдзельнікі сходу таксама ўнеслі і ўносяць важкі ўклад у даследаванні творчай спадчыны Я. Коласа. Гэта — ініцыятар стварэння фонду Я. Коласа, яго пляменнік С. Белы, нястомная руплівіца на ніве коласазнаўства, дырэктарка літаратурна-мемарыяльнага музея Я. Коласа З. Камароўская. Гэта дзякуючы і ёй многае робіцца па ўвекавечанні памяці Я. Коласа на Стаўбцоўшчыне: працуе раённы фонд Я. Коласа, створаны так званы "Шлях Коласа", праводзяцца "Каласавіны", штогоднія святы "Сымон-музыка"...

Дзеля лепшай прапаганды творчасці Я. Коласа, яе далейшага мэтанакіраванага даследавання неабходны фонд, які б аб'ядноўваў прыхільнікаў таленту песняра з розных рэгіёнаў. Слушна наконт гэтага сказаў В. Ермаловіч: "Радзіма Я. Коласа — уся Беларусь".

Зрэшты, зацікаўленасць да стварэння Міжнароднага коласаўскага фонду праявілі А.Барскі і Ч. Сенюх з Польшчы. Спадар Барскі на Беларусі даўно свой чалавек. Ч. Сенюха, на жаль, у нас ведаюць менш. І гэта недаравальна, бо ён таксама вельмі шмат робіць па пашырэнні сувязяў паміж польскім і беларускім народамі, найперш на ніве літаратурных і культурных узаемадачыненняў. Цяпер Ч. Сенюх працуе над перакладам на польскую мову "Новай зямлі". На сходзе ён пазнаёміў прысутных з урыўкамі з паэмы. Цудоўна гучыць гэты неўміручы твор па-польску. Гэта — вынік вялікага майстэрства перакладчыка, яго здатнасці адчуць сам дух коласаўскай паэзіі.

Аб канкрэтных захадах па ўвекавечанні памяці Я. Коласа, прапагандзе яго жыцця і творчасці гаварылі народны пісьменнік Беларусі І. Шамякін, намеснік міністра культуры і друку Рэспублікі Беларусь І. Карэнда, В. Каваленка, М. Мушынскі, С. Грахоўскі, В. Коўтун, А. Майсейчык (Брэст), настаўнік Даманаўскай сярэдняй школы Івацэвіцкага раёна В. Мароз, прэзідэнт дзіцячага фонду "Сакавік" М. Міцкевіч і многія іншыя.

Пакрысе з іх выступленняў вымалёўвалася структура Міжнароднага фонду Я. Коласа як добраахвотнай грамадскай культурна-асветніцкай арганізацыі, якая ставіць сваімі мэтамі — аб'яднанне ўсіх, хто гатовы працаваць дзеля ўшанавання імя народнага песняра Я. Коласа, хто неабыякавы да нашай культуры, яе традыцый, да творчай спадчыны Я. Коласа.

Вызначаны і асноўныя задачы фонду: аднаўленне, рэстаўрацыя і ахова мемарыяльных аб'ектаў, памятных коласаўскіх мясцін; арганізацыя і ўдзел у міжнародных навуковых канферэнцыях, юбілеях, святах, фестывалях; заахвочванне навуковых даследаванняў па коласазнаўстве, садзейнічанне па наладжванні сувязей паміж гарадамі і населенымі пунктамі, дзе жыў Я. Колас; прыкладанне намаганняў па выданні Збору твораў песняра.

Паводле статута Міжнароднага фонду Я. Коласа, яго сябрамі могуць быць грамадзяне Рэспублікі Беларусь, замежныя грамадзяне, а таксама калектыўныя суполкі. А супольныя сябры фонду — гэта айчынныя і замежныя грамадскія арганізацыі, гурты, клубы, працоўныя калектывы навуковых і навучальных устаноў, прадпрыемстваў і фірмаў, зямляцтвы, створаныя ў тых месцах, дзе жывуць беларусы.

Ганаровым прэзідэнтам Міжнароднага фонду Я. Коласа выбраны сын народнага песняра Д. Міцкевіч, старшынёй рады — народны пісьменнік Беларусі І. Шамякін, намеснікамі старшыні — З. Камароўская і народны пісьменнік Беларусі І. Навуменка, сакратаром А. Гарун, членамі рады — С. Белы, народны пісьменнік Беларусі Я. Брыль, С. Грахоўскі, загадчык аддзела культуры Стаўбцоўскага райвыканкама А. Грэкаў, Г. Далідовіч, М. Мушынскі, Я. Хвалей.

**А. М.**

# "РОДНАЕ СЛОВА": ПЕРШЫЯ СТО НУМАРОЎ"

Так, красавіцкі нумар штомесячнага навукова-метадычнага часопіса Міністэрства адукацыі і навукі Рэспублікі Беларусь "Роднае слова" — па-свойму юбілейны. Нават не верыцца, што выйшаў ужо соты яго нумар: здаецца ж, так нядаўна было тое... Як жа ўзрадаваліся шчырыя прыхільнікі беларушчыны, калі ў 1987 годзе ў рэшце рэшт было прынята рашэнне (а не будзем забываць, што на той час гэта не так проста і рабілася, без волі самой кіруючай аніяк не абыходзілася) аб выданні ў рэспубліцы часопіса "Беларуская мова і літаратура ў школе" (такой была першапачатковая назва "Роднага слова"). І з якім хваляваннем чакалі яны з'яўлення першага нумара. І, нарэшце, ён прыйшоў, пазначаны студзенем 1988 года. Прывабіла вокладка: на белым і зялёным фоне — гусіное пяро, верхняя частка якога аздоблена нацыянальным арнаментам. Ужо гэтым новы часопіс як бы нагадваў, што будзе прытрымлівацца не толькі сваіх першаступенных задач, звязаных з метадычнай выкладання ў сярэдняй школе беларускай мовы і літаратуры, а і стане шырока прапагандаваць увогуле нацыянальнае прыгожае пісьменства, культуры, тэатр, пры гэтым не забываючы, пастаянна памятаючы: напачатку было слова. У дадзеным выпадку — слова роднае, беларускае...

З першых жа нумароў часопіс пачаў набываць свой твар. Яго воблік, калі можна так сказаць, акрэсліўся ўжо к канцу таго ж 1988 года... Так і цягнецца рука перагарнуць той, цяпер ужо даўні, камплект з 12 кніжак. Думаю, ён ёсць у многіх, хто з часу выхаду "Беларускай мовы і літаратуры ў школе" пачаў лічыць часопіс сваім. Ёсць ён і ў мяне.

У некалькіх нумарах падборкі матэрыялаў, прысвечаных 150-годдзю з дня нараджэння К. Каліноўскага. Як бы міні-энцыклапедыя, са старонак якой паўстае постаць слаўнага сына Бацькаўшчыны. Тут жа артыкулы, прысвечаныя творчасці М. Гарэцкага, Ядвігіна Ш., А. Кулакоўскага, найноўшым творам сучаснай літаратуры, дыялогі з З. Азгурам, А. Грачанікавым, С. Грахоўскім, К. Крапівой, Л. Шчамялёвым, Я. Янішчыц, у раздзеле "Спадчына" — творы М. Арла, А. Гаруна, артыкулы пра іх жыццёвы і творчы шлях...

І гэтых матэрыялаў дастаткова, каб пераканацца, што галоўны рэдактар М. Шавыркін адразу досыць правільна сарыентаваўся, каб рабіць выданне цікавае, карыснае, пазнавальнае і, вядома ж, нацыянальнае па змесце, па духу. І ў той жа час — не запалітызаванае. Гэта таксама важна. Гучным голасам можна звярнуць на сябе ўвагу. Але "надрыўнасць" — яшчэ не перакананне ў праваце справы, якой служыш, якой адданы.

"Роднае слова" (пад такой назвай "Беларускай мова і літаратура ў школе" выходзіць з 49-га нумара) пераконвае, што нельга не любіць родную мову, нельга не захапляцца беларускай літаратурай, а калі шырэй — культурай. Пераконвае падборам імён (як тых, пра каго пішацца, так і аўтараў "РС"), умелай падачай матэрыялаў, актуальнасцю іх праблематыкі.

А яшчэ вабіць пастаяннае жаданне супрацоўнікаў часопіса рабіць, здавалася б, немагчымае. Маю на ўвазе выхад (няхай і рэдка) нумароў з каляровымі ілюстрацыямі, выпуск падвоеных нумароў як напамінак, якім можа стаць "Роднае слова", калі ў нашай дзяржаве настануць лепшыя часы і знойдуцца сродкі на тое, каб выданні, падобныя на "РС", выпускаць у палепшаным мастацкім афармленні і на належным паліграфічным узроўні.

Пра гэта гаворыць і юбілейны, красавіцкі нумар, які ў паўтара раза больш па сваім аб'ёме за звычайны. А яшчэ тут — і высакаякасная папера, і некалькі колераў. І — шматлікія віншаванні. У любові да "РС" прызнаюцца, самыя шчырыя пажаданні яму выказваюць колішні міністр культуры і друку Рэспублікі Беларусь Анатоль Бутэвіч, міністр культуры Аляксандр Сасноўскі, старшыня Дзяржаўнага камітэта па друку Уладзімір Бельскі, намеснік міністра адукацыі і навукі Аляксандр Казулін, народныя пісьменнікі Беларусі Янка Брыль, Васіль Быкаў, Іван Навуменка, Іван Шамякін, народныя паэты Рыгор Барадулін, Ніл Гілевіч, народны артыст СССР Ігар Лучанок і многія іншыя.

І, урэшце, тут і слова галоўнага рэдактара М. Шавыркіна "Паходні мігатлівае святло": "З кожным нумарам удакладняецца роля навукова-метадычнага часопіса ў педагагічным жыцці. Напачатку яго параўноўвалі з люстэркам, якое перадае ўзровень філалагічнай навукі, стан метадычнай службы. Потым узнікла параллель з паромам, які (ужо на выбар) перавозіць з аднаго берага (навукі, педагагічнага майстэрства) на другі (для настаўнікаў) неабходныя матэрыялы. Цяпер называем паходняй. Не велізарным пражэктарам, які высвечвае шлях для грамады, не маяком, на агонь якога трымаюць арыенцір у неспакойным моры разнастайных памкненняў і палітычных намераў, а паходняй — тым агеньчыкам, вакол якога збіраецца люд, каб вырашыць набалелыя пытанні пра родны край, нашу Бацькаўшчыну, пра сябе і сваё месца ў Сусвеце і рушыць далей, наперад, да хараства.

Часопіс імкнецца свяціць. Каб нам усім разам быць. І развівацца".

А наколькі гэтае "свячэнне" вабнае, яскрава сведчаць і такія лічбы. У нашай дзяржаве выкладчыкаў беларускай мовы і літаратуры недзе 8 тысяч, тыраж жа "РС" — 10 з гакам тысяч экземпляраў. Значыць, гэта часопіс для ўсіх!

Са шчырымі пажаданнямі свяціць доўга і ярка — пастаянны чытач "Роднага слова" і яго больш-менш пастаянны аўтар

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

## Міхась ПАЗНЯКОЎ

●

**Чалавек без радзімы —**
**І сляпы, і глухі, і нямы.**
**Беларусь, Беларусь, Беларусь...**

●

**Спяжына ў дрымучым лесе —**
**Нібы не адзін**
**У гэтай глушы блукаю.**

●

**Кубак каля крыніцы.**
**Стому прагнала**
**Нечай душы дабрыня.**

●

**Ногі адмералі пяць кіламетраў,**
**А душа яшчэ недзе**
**На першых кроках.**

●

**Увечары, як залаты вулей,**
**Свеціцца вокнамі-сотамі дом,**
**Але ці за ўсімі мёд?**

●

**У небе выбліснуў месяц,**
**І мільёны пазіркаў**
**Зліліся ў адзін.**

●

**На месцы былой сядзібы**
**Квітнее старая груша:**
**Як сумна спяліць ёй плады.**

●

**Рыпіць калодзеж...**
**Іржавы ланцуг**
**Смагу палохае.**

●

**Начное вогнішча...**
**Як многа пачуццяў і думак**
**На языках полымя.**

●

**Стог каля рэчкі —**
**Сувой фарбаў і гукаў**
**Зніклага лета.**

●

**Клін жураўліны**
**І чарнобыльскую сінь**
**Разразае самотай.**

●

**На сметніку квітнее вішня...**
**Чаго больш на душы:**
**Радасці ці суму — не ведаю.**

●

**Ліловыя стракозы**
**Агучылі берагавыя травы**
**Чуллівай музыкай асаloды.**

## ...І АРГАНІЗАТАР ГРАМАДЫ

**Нядоўгім было жыццё выдатнага дзеяча нацыянальнага Адраджэння Івана Луцкевіча (1881—1919), ды след пасля сябе ён пакінуў значны. Акурат цяпер, калі з дня нараджэння Івана Іванавіча спаўняецца 115 гадоў, і ёсць нагода ўспомніць яго добрым словам. Жывучы ў Пецярбурзе, І. Луцкевіч удзельнічаў у стварэнні Беларускага гуртка народнай асветы, займаўся і выпускам кніг. Гэта і ён спрычыніўся да выхаду "Каляднай пісанкі" на 1904 год" (1903), "Вялікоднай пісанкі" (1904). У зборніку "Вязанка" (1903) выдаў літаратурную спадчыну Я. Лучыны.**

**І. Луцкевіч уваходзіў у рэдакцыі газеты "Наша доля" і "Наша Ніва", быў ініцыятарам стварэння ў Вільні Беларускага музея, асновай экспазіцыі якога сталі яго ўласныя калекцыі, першай беларускай гімназіі.**

**А да ўсяго — быў адным з арганізатараў Беларускай Сацыялістычнай Грамады.**

## ПЕРШЫ Ў БЕЛАРУСКАЙ ЭТНАГРАФІІ

**займаўся фатаграфаваннем у час экспедыцый беларускі этнограф, фалькларыст і археолаг Ісак Сербаў, з дня нараджэння якога споўнілася 125 гадоў. Ім было выканана каля 5 тысяч унікальных здымкаў. На жаль, з іх захавалася толькі каля 450, але і іх дастаткова, каб атрымаць уяўленне аб побыце беларускага народа, яго рамёствах, адзенні, аб нашай прыродзе...**

**Увогуле ж І. Сербаў даследаваў побыт і матэрыяльную культуру беларусаў, надаючы асаблівую ўвагу побыту лесарубаў і плытагонаў. Навуковую значнасць уяўляюць такія яго працы, як "Сяло Вялікае. Малюнкі з жыцця Беларусі" (1910), "Паездкі па Палессі 1911 і 1912 гг." (1914), "Беларусы-сакуны" (1915).**

**І. Сербавым сабраны багатыя калекцыі адзення, узораў народнага мастацтва, на аснове якіх быў падрыхтаваны альбом "Беларускае народнае мастацтва", выдадзены ў 1951 годзе (Ісак Абрамавіч памёр у 1943 годзе). Значныя набыткі яго і як археолага. У 1925 годзе ён вёў раскопкі пад Мінскам, у 1928-ым даследаваў археалагічныя помнікі на Ушацкім і Дубровенскім раёнах, а ў 1930 годзе — стаянкі неаліту. А яшчэ І. Сербаў збіраў фальклор.**

## НІКАЛАЮ АНТОНАВУ — 70

**Балгарскі пісьменнік Нікалай Антонаў з тых, хто прапагандуе ў сябе на радзіме беларускую літаратуру. У 1965 годзе выйшла, складзеная ім, анталогія "Паэзія перамогі", для якой Н. Антонаў пераклаў творы Я. Купалы, Я. Коласа, П. Броўкі, П. Глебкі, А. Куляшова, М. Танка і іншых паэтаў. Ён жа — аўтар нататак пра гэтых аўтараў. Творы, пераўвасобленыя Н. Антонавым па-балгарску, з'яўляліся і ў перыёдыцы. У сваю чаргу ён перакладаўся на беларускую мову. Знайшлося месца Н. Антонаву і ў анталогіі аднаго верша "Сто гадоў. Сто паэтаў. Сто песень", перакладзенай Н. Гілевічам.**

## ДАПАМОГ ФРАНЦІШКУ БАГУШЭВІЧУ

**Калі пасля падаўлення паўстання 1863 года Францішак Багушэвіч, як удзельнік яго, хаваўся ад царскіх уладаў, перабрацца яму ў Нежын дапамог Ян Карловіч. Дзякуючы яму пабачыў свет і першы паэтычны зборнік Мацея Бурачка "Дудка беларуская". Ужо гэтага дастаткова, каб Я. Карловіча, з дня нараджэння якога напрыканцы мая спаўняецца 160 гадоў, успамінаць добрым словам. А да ўсяго Я. Карловіч — вядомы этнограф, фалькларыст, музыказнаўца. Ён вывучаў духоўную і матэрыяльную культуру польскага, беларускага і літоўскага народаў, збіраў вусную народную паэзію. Для М. Федароўскага запісаў больш за 500 мелодый беларускіх народных песень. Вядомы Я. Карловіч і сваёй перапіскай з А. Гурыновічам, А. Ельскім, М. Янчуком і іншымі выдатнымі дзеячамі культуры.**

## ЗАГІНУЎ НА ФРОНЦЕ

**Як і многія іншыя, аддаў сваё жыццё за Радзіму яўрэйскі паэт Леў Талалай. Варожая куля напаткала яго ў 1942 годзе. Сёлета спаўняецца 90 гадоў з дня нараджэння Льва Барысавіча. А родам Л. Талалай з Магілёўшчыны. Працаваў настаўнікам Вендарожскай пачатковай школы Магілёўскага раёна, у 1926—1928 гадах вучыўся ў Віцебскім педагагічным тэхнікуме, а затым быў прызваны ў армію. З 1932-га — супрацоўнік яўрэйскай газеты "Юнгер арбайтэр" ("Малады рабочы"). Да пачатку вайны выкладаў рускую мову і літаратуру ў адной з сярэдніх школ Мінска.**

**Пісаў Л. Талалай на мове ідыш. З першым вершам выступіў у рэспубліканскай перыёдыцы ў 1924 годзе. Выдаў кнігі "Мой першы сноп" (1932) і "На маршы" (1940). Некаторыя творы Л. Талалая ў перакладзе на беларускую мову былі апублікаваны ў кнізе "Мы іх не забудзем", што выйшла ў 1949 годзе.**

## ВЯРТАННЕ РЭДКАГА ФОТАЗДЫМКА




**У красавіку архіў Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі папоўніўся рэдкім фотаздымкам славутага мастака Ільі Рэпіна, зробленым у Віцебску на пачатку 1890-ых гадоў.**

**Нашчадкі мінскага знаўцы беларускай старасветчыны С. Палееса (1898—1964), якія зараз жывуць у Нью-Йорку, падаравалі рэліквію музею, як знак памяці свайго бацькі, які шмат гадоў працаваў у нашым музеі і даследаваў беларускі перыяд жыцця Рэпіна. У экспазіцыі музея ёсць творы Рэпіна часоў, калі ён жыў у Здраўневе, сваім маёнтку пад Віцебскам ("Месячная ноч. Здраўнева", палатно, алей), але фотаздымкаў самога мастака гэтага часу ў архівах Беларусі дагэтуль не было.**

**Вядома, што віцебскі фатограф С. Юркоўскі ў час знаходжання Рэпіна ў Віцебску зрабіў некалькі здымкаў мастака ў розных ракурсах. Адзін з іх знаходзіцца ў Пенатах, другі ў канцы XIX ст. належаў знакамітаму віцебскаму краязнаўцу, выдаўцу "Витебской старины" А. Сапунову, які падпісаў яго і паставіў на адвароце свой аўтограф. У 50-ыя гады гэты здымак набыў С. Палеес, які захоўваў яго ў сваім асабістым архіве доўгія гады.**

**І вось — адна з рэдкіх прыемных з'яў вяртання на радзіму "вымытых" войнамі і эміграцыяй за межы краіны архіўных рарытэтаў Беларусі.**

**Нацыянальны мастацкі музей Беларусі выказвае сардэчную падзяку былой мінчанцы, нашай дабрадзейцы Галіне Аляксандраўне Палеес за каштоўны падарунак.**

**Н. ВУСАВА,**
**навуковы супрацоўнік НММ РБ**

## ЁСЦЬ СВАЯ РОК-ГРУПА

**Маладыя петрыкаўцы ўжо знаёмы з песнямі мастака-афарміцеля мясцовай райаграпрамтэхнікі І.Вінніка. 21-гадовы юнак напісаў звыш ста ўласных песень — тэксты і музыку, многія з якіх палюбіліся слухачам. У канцы мінулага года культасветработнік С.Сергіенка пачаў дапамагаць яму і яго аднадумцам — брату С.Вінніку, С.Міцуру і С.Каленіку падрыхтаваць першую канцэртную праграму. Дзякуючы намаганням мастацкага кіраўніка РДК С.Новак адбылася яе прэзентацыя на сцэне культасветустановы.**

**Прысутныя прыхільна паставіліся да дэбюту рок-групы "Ноч". Моладзь нават выказалася за тое, каб у далейшым у горадзе праводзіліся не дыскатэкі, а, як і раней, іграў на танцах мясцовы ансамбль.**

**А.ЛАРЫЁНАЎ**

# КЛОД ЖАЛІФ: "У ФРАНЦЫІ НЯМА АГУЛЬНАЙ ДУМКІ АБ ПАДЗЕЯХ 1871 Г."

***У гэтыя майскія дні ў многіх краінах свету адзначаецца 125-я гадавіна Парыжскай Камуны. Стаўленне да гэтай падзеі ў нас яшчэ зусім нядаўна трактавалася выключна з "класавых" пазіцый.***

***Дзесяцігоддзямі ў савецкай літаратуры цытаваліся словы У.І.Леніна пра тое, што "...Камуна ёсць найвялікшы ўзор найвялікшага пралетарскага руху XIX стагоддзя" і што "на плячах Камуны стаім мы ўсе ў цяперашнім руху". У кожным падручніку па гісторыі можна было прачытаць, што "Камуна навучыла еўрапейскі пралетарыят канкрэтна ставіць задачы сацыялістычнай рэвалюцыі".***

***125 гадоў мінула з тых дзён, калі спыніла сваё існаванне Парыжская Камуна. За гэтыя гады з'явіліся шматлікія версіі гісторыі Камуны. Спрэчкі вакол яе ідэйнай спадчыны працягваюцца. Некаторыя бачаць толькі патрыятычны характар Камуны, разглядаюць яе як стыхійны сацыяльны выбух "традыцыйнага"грамадства, пішуць пра Камуну, як пра народнае свята ці нават карнавал, перабольшваюць аспекты самакіравання ў Камуне і г.д.***

***Гісторыя Парыжскай Камуны, яе інтэрпрэтацыя, яе вопыт і ўрокі па-ранейшаму носяць неадназначны характар.***

***Субяседнік нашага карэспандэнта Ігара Кузняцова — Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Французскай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь сп. Клод ЖАЛІФ.***

**— 4 верасня 1870 года ў Францыі пала Другая імперыя. Ідэя абароны Айчыны нярэдка спалучалася з ідэямі перабудовы грамадства, у прыватнасці, стварэння Камуны. Хто ж падтрымліваў гэтую ідэю і ў чым быў яе сэнс?**

— Камуна не з'явілася вынікам нейкага канкрэтнага плана дзеянняў, выпрацаванага тэарэтыкамі, хутчэй спантаннай рэакцыяй парыжан на сітуацыю, якая ім падалася непрымальнай: капітуляцыя ўрада перад ворагам. З гэтага патрыятычнага парыву ўзнікла ідэя сацыяльнай справядлівасці, якая аказалася яшчэ больш неабходнай таму, што багатыя класы ў сваёй масе здаваліся здраднікамі Радзімы. Падобны працэс можна назіраць у час большасці народных хваляванняў; паўстанне з'яўляецца адказам на канкрэтную сітуацыю, якая здаецца несправядлівай тым людзям, якія ў ёй аказваюцца. Аднойчы пачаўшыся, рух набывае размах, знаходзяцца яго кіраўнікі і ідэолагі і, у рэшце рэшт, ён выраджаецца. Але Камуна не працягнулася так доўга, каб прайсці ўвесь гэты цыкл, вось таму складана яшчэ і цяпер дакладна ацаніць яе значэнне.

**— 18 сакавіка 1871 года ў Францыі адбыліся падзеі, якія ўвайшлі ў гісторыю як Парыжская Камуна. Як на самай справе гэта адбывалася?**

— Лепш за ўсё ўспомніць храналогію падзей:

- 2 верасня 1870 года — Напалеон III капітулюе ў Седане;

- 4 верасня — абвешчана Рэспубліка і сфарміраваны ўрад Нацыянальнай абароны;

- 5 студзеня 1871 года, атрымаўшы серыю перамог у ваенных бітвах, пруская войскі пачынаюць бамбіць Парыж;

- 28 студзеня — перамір'е з Прусіяй: пайшоўшы супраць жадання жыхароў, урад адмовіўся абараняць Парыж;

- 17 лютага — Ц'ер выбраны кіраўніком выканаўчай улады, у пачатку сакавіка ўсё кіраўніцтва Рэспублікі перабіраецца ў Версаль;

- з 10 па 15 сакавіка ў Парыжы фармуецца Цэнтральны Камітэт Нацыянальнай гвардыі (войска, сфармаванае з жыхароў кожнага з буйных гарадоў з мэтай яго абароны);

- 18 сакавіка — рэгулярная армія не змагла абяззброіць Нацыянальную гвардыю; два генералы былі забіты, гэта

# ПАЭТ З СУЗОР'Я "БЕЛАВЕЖА"

***Ян Чыквін — доктар гуманітарных навук, прафесар Варшаўскага універсітэта. З 1988 года ўзначальвае беларускае літаратурнае аб'яднанне "Белавежа", што на Беласточчыне. Член Саюза польскіх пісьменнікаў. Аўтар паэтычных зборнікаў "Іду" (1969), "Святая студня" (1970), "Неспакой"(1977), "Сонечная вязь" (1988, на беларускай і польскай мовах), "Кругавая чара" (1992). Кнігу "Светлы міг" выдала ў 1989 г. "Мастацкая літаратура".***

***Наш карэспандэнт меў магчымасць пагутарыць з Янам Чыквіным падчас сустрэчы беларускіх і польскіх літаратараў у Гайнаўцы. Неўзабаве прыйшлі адказы на пакінутыя тады пытанні, якія мы і прапануем увазе чытачоў.***

**— Як вы лічыце, Ян Арцёмавіч, гэта заканамернасць ці выпадковасць, што вы сталі менавіта беларускім літаратарам?**

— Што ёсць заканамернасць, а што выпадковасць — на гэту тэму маем горы кніг. Але так і застаецца невядомым, што яны значаць у плане духоўным. У сферы творчасці, мяркую, шмат вырашаецца па-за чалавекам, г.зн. па-за яго́ным полем інтэлектуальнага кантролю.

**— Што ў асабістым жыцці магло паўплываць на станаўленне вашага светапогляду і творчай манеры?**

— Думаю, што светапогляд нельга ставіць у адным радзе з творчай манерай. Светапогляд мы ўсё-такі застаем, так сказаць, гатовым. Хочам мы таго ці не хочам, але ўсе народжаныя ў міжземнаморскай культуры атрымліваюць аднолькавую статычна (хрысціянскую)-дынамічную (навуковую) карціну сусвету. З гэтага спалучэння двух разнаякасных планаў быцця і ўзнікае цудоўна-няўстойлівы, шматфарбны каберац нашага светапогляду.

А творчая манера — гэта знешняе выяўленне (графічнае, вобразнае, стылістычна-празадычнае і да т.п.) нашага псіхічнага свету, які, вядома, жыве ў сімбіёзе са знешняй рэальнасцю, што рашуча ўплывае на станаўленне нашай творчай (або нятворчай) індывідуальнасці. Мне зараз здаецца, калі шукаю для сябе нейкае вытлумачэнне, чаму я — часам — пішу вершы, што ўсе факты з майго ранняга жыцця складаліся неяк так добра — нядобра, так напружваліся іх патэнцыялы, што толькі праз мяне магла вызваліцца іх энергія.

Адметная прырода падбелавежскіх ваколіц, сярод якой я рос і чым насычаўся, чаго сам спачатку не ўсведамляў, фармавала з мяне асобу, як мне здаецца, з мяккім характарам, які любіць залатое сячэнне, гармонію ва ўсім. Хацелася б верыць, што гэта рыса маёй натуры мае сваё адлюстраванне не толькі ў маіх паводзінах, але і ў творчай манеры.

**— Хто бліжэй вам па творчасці з калег-беларусаў ці з нашых класікаў?**

— Па спецыяльнасці я філолаг-русіст, гісторык літаратуры. У Варшаўскім універсітэце нас не распешчвалі. Каб утрымацца на паверхні, мы, студэнты, мусілі штодзень чытаць па 250—300 старонак адно мастацкай літаратуры — зразумела, не толькі расійскай.

Знаёмства з беларускай літаратурай не ішло паралельна з сусветнай. Гэта сталася пазней. На маю думку, альфаю і амегаю беларускай паэзіі ёсць Максім Багдановіч. Ніхто з беларускіх паэтаў не змог дагэтуль падняцца вышэй за яго. І кожны не можа не адчуваць яго́най прысутнасці.

**— Увогуле вы чалавек адкрыты свету ці, як кажуць, "у сабе"?**

— Не гэта для мяне найважнейшае, ці я адкрыты, ці "ў сабе", бо насампраўдзе я, калі хочаце, пераменлівы, г.зн. часам, вельмі рэдка, "адкрываюся" да канца, дазваляю выспавядацца з найбольш інтымных перажыванняў. Але гэта бывае надта рэдка, у крайніх сітуацыях шчаслівасці або нешчаслівасці. А так наогул, на штодзень я "ў сабе", як і большасць людзей.



Важнейшае для мяне тое, што я сам сабе — вялікая таямніца. І мая літаратурная творчасць, а таксама схільнасць да жывапісу, музыкі ёсць, мабыць, шлях да зразумення праз самога сябе таго феномену, якім ёсць у свеце Прыроды Чалавек.

**— Якія гады ці дзесяцігоддзі вашага жыцця былі найбольш істотнымі для творчага росту?**

— Для майго пакалення, народжанага ў гады другой сусветнай вайны, на ўскрайку этнасу, які здаўна ўжо накрыты польскаю культураю, творчы старт быў спознены на 5—7 гадоў.

У 1956 годзе пачала выходзіць у Беластоку "Ніва" — і яна дала магутны штуршок да творчасці не толькі мне аднаму. Я быў тады вучнем ліцэя ў Бельску Падляскім. Праз два гады пасля свайго дэбюту стаў студэнтам, жыў у Варшаве. Той чысты, празрысты час студэнцкай вольнасці (1959—

Сустрэчы

***Як завуць цябе, горад? Над будынкам чыгуначнага вакзала неонавымі літарамі высвечваецца тваё апошняе імя, прысвоенае ў гонар сціплага ўсесаюзнага старасты, які не пашкадаваў ні свайго прозвішча, ні нават сваёй жонкі — абы дагадзіць сістэме, у якой меў зацішны закутак. У вулічным шапіку можна набыць геаграфічную карту, на якой ты завешся на нямецкі лад горадам караля. А прайшоўшы трохі па цэнтральным праспекце, так і карціць завітаць у невялічкую крамку, дзверы якой упрыгожвае шыльда, што прымушае радасна адгукнуцца кожнае беларускае сэрца — "Каралевец". Гэткае ж слова апаясвае круглую пячатку на запрашэнні, якое паведамляе, што з 4 па 8 красавіка ў Каралевецка-Кенігсбергска-Калінінградскай вобласці пройдуць Дні беларускай культуры. Прэзентаваць беларускую культуру з затузанай рэферэндумамі ды іншымі жыццёвымі амбарасамі метраполіі на беразе Балтыкі адважыліся выправіцца мужчынскі камерны хор "Унія", бард і акцёр Віктар Шалкевіч ды аўтар гэтых радкоў...***

# БЕЛАРУСЫ Ў КАРАЛЕЎСКІМ ГОРАДЗЕ

Апрача малаткастага і сярпастага, за пазухай я не меў за душой нічога, што дазваляла б мне бесперашкодна пераадольваць межы. Рызыкуючы быць ссаджаным на беларуска-летувіскай мяжы і ўяўляючы сваё сумнае вяртанне па шпалах у сталіцу суверэннай Радзімы, я нервова запіхваў далей пад вагонную лаўку ладнаватую тарбіну. Яе змесціва складалі кнігі — цэлы пакунак "Ад родных ніў" Ларысы Геніюш, якімі я думаў пацешыць тамтэйшых беларусаў.

Любы памежнік з чырвонаю зоркай на шапцы меў поўнае права абвясціць выданне Беларускага камітэта самапомачы ў Нямеччыне кантрабандай і дадзенай яму ўладай спыніць распаўсюджванне нацыяналістычнай літаратуры. Але міліцыянт са скрынкай на жываце, нібы катрыншчык, больш прыглядаўся да "Пагоні" на самаробнай вокладцы пашпарта, чымся да яго эсэсэраўскіх атрыбутаў усярэдзіне. А багаж пачаў пераглядаць увогуле ў суседзяў-украінцаў. Неўзабаве па ўсім вагоне ўсчаўся вялікі вэрхал, пачуліся жаночыя галашэнні й дзіцячы плач, падсцёбнутыя катэгарычным, як у турме, "на выход с вещами!" Тут я зразумеў, што хваляваўся я недарэмна і што асядланы збройным рыцарам на кані пашпарт СССР сапраўдны толькі для грамадзян новаўтворанага ССР, а сыны й дочкі ненькі Украіны падлягаюць высяленню з цёплага цягніка ў трывожную прыгранічную ноч. Але самасційныя, а таму непаслядоўныя нашчадкі пышнавусага інтэгратара Багдана праявілі кемлівасць і, відаць, дэзінфармаваўшы памежнікаў, што яны яшчэ з часоў Пераяслаўскай рады ў тым саюзе, супакоена вярнуліся на свае месцы, і мы паехалі далей.

Калі б знакаміты рэжысёр Андрэй Таркоўскі надумаўся аддаць даніну модзе й вырашыў ператварыць свайго "Сталкера" ў бясконцы серыял, здымаць натуру яму зручна было б у Калінінградскай вобласці. Наўсцяж чыгункі ўвесьчасна мільгалі запушчаныя, кінутыя гаспадарамі сядзібы з забітымі вокнамі. Віктар Шалкевіч вывалак са свайго купэ на калідор нейкага бізнесмена-калінінградца, які доўга тлумачыў асаблівасці існавання расійскага анклава і таму на гэтым кавалку зямлі пануе гэткая безгаспадарчасць.

На вакзале нас сустрэў старшыня Таварыства беларускай культуры і ўладальнік вышэйзгаданай крамы "Каралевец" Ігар Шаховіч. Гэта дзякуючы яму й ягонай жонцы Наталлі мясцовыя беларусы маюць магчымасць пазбегнуць канчатковай русіфікацыі. Гэта спадарства Шаховічаў на ўласных нервах, харчах і грашах выцягвае гэтыя Дні культуры, што сталіся традыцыйным штогадовым святам.

Шаховіч яшчэ ў машыне робіць афіцыйнае спавешчанне, што паводле ягоных падлікаў беларусам павінен быць кожны дзесяты калінінградзец, але не ўсе пакуль прызналіся. (Паводле найноўшага энцыклапедычнага даведніка "Народы России" (М., 1995), беларусаў у Калінінградскай вобласці налічваецца ўсяго 73,9 тыс. чалавек. Магчыма, афіцыйныя статысты мелі на ўвазе толькі тых нашых суродзічаў, якія звыкліся лічыць сябе неад'емным складнікам таго нацыянальнага месіва, з якога сем дзесяцігоддзяў выплаўлялі дзіўны кангламерат "савецкі народ" і якое на сваю нацыянальную прыналежнасць да беларусаў глядзіць, як на часовае з'явішча). Мы з Шалкевічам моўчкі настройваемся на абуджэнне гістарычнай памяці ўніклівых суродзічаў. А "Унія" ўжо два дні з поспехам гастралюе па бліжэйшых мястэчках.

А другой палове дня едзем у Праўдзінск. Па дарозе аглядваем мясцовую гідраэлектрастанцыю, збудаваную яшчэ немцамі. Ніягара! Хуткасць вады вельмі вялікая, ажно здаецца, што пад запрудай сядзіць нехта вялікі й сцябае раку даўжэзнымі розгамі. Электрастанцыю ўжо каторы дзесятак гадоў рамантуюць, а калісьці яна сілкавала энергіяй нават недалёкую Польшчу. Я стаю над бурлівым патокам, адчуваючы лёгкае кружэнне галавы, і назіраю вясёлку, што адбіваецца ад белых надброўяў нерасталага набярэжнага снегу і ад ранняй лысіны неўтаймоўна Шалкевіча, які бясстрашна прагульваецца над самымі вірамі.

На канцэрце ў праўдзінскім Доме культуры я маю вольную, а таму зашываюся на самую камчатку напаўцёмнай вялікай залы, якая пацíху запоўнілася людзьмі рознага веку. Зладжаным шматгалоссем "Уніі" заслухаліся нават дзяўчаткі ў кароткіх да немагчымасці спадніцах, а песня на словы Уладзіміра Дубоўкі "О Беларусь, мая шыпшына" да слёз расчуліла бабульку за маёй спіной. Шалкевіч спяваў і скамарошыў, як і належыць артысту лялечнага тэатра, таксама пад авацыі. Прыемнай неспадзяванкай для мяне сталася колькасць мясцовых самадзейных артыстаў, калі на сцэну наўзамен прыезджым выступоўцам пачалі адзін за адным падымацца шматлюдныя рознаўзроставыя калектывы й спяваць... беларускія народныя песні. Было такое ўражанне, што дзея адбываецца дзесьці пад Слуцкам, а не ў былой Усходняй Прусіі.

Паперадзе мяне сядзела сямейная пара. Ён увесьчасна парываўся выйсці, яна ўмольвала: "Ну посидим еще трошки". Нарэшце пасярод песні "А дзе тая крынічэнька, што голуб купаўся" ён павярнуўся да мяне профілем шарыкава й прастадушна запытаўся ў жонкі: "Да нах... тебе эти песни?!" Кабета не вытрымала й, прыклаўшы да вачэй хусцінку, падалася да выхаду. Следам патэпаў і муж.

Пасля канцэрта й вячэры шпацыруем па цэнтральным пляцы Праўдзінска. Каб не расійскі трыкалёр і не двухгаловы арол на будыніне раённай управы, можна было б падумаць, што знаходзімся мы дзе-небудзь у Зэльве ці Калінкавічах — нават самы чалавечны чалавек на пастаменце быў гэткі ж самы, шэры й недагледжаны, застылы ў знаёмай да болю паставе з выцягнутай рукой.

У недалёкім "питейном учреждении", куды мы завіталі ну дальбог толькі дзеля цікавасці, на гразнай падлозе спіць сабе чалавек. Культурна так, і відаць, што не бомж, бо побач акардэон валяецца. Ніхто на яго не звяртае ўвагі, нават міліцыянты, што мелі нейкі інтарэс да шынкаркі, якая, нібы ў анабіёзе, нерухома сядзела за прылаўкам.

На пад'ездзе да Калінінграда назіраем цікавае відовішча. Над ракой роспачна ўскінуўся да неба разведзены немцамі пры адступленні мост. Не здолеўшы разабрацца ў падпсаваным разводным механізме, новыя гаспадары вымушаны былі пабудаваць поруч новы мост, а стары й праз паўстагоддзя выглядае нязгорш. У горадзе дапамагаем разысціся нанач па хатах двум паважным удзельнікам "Уніі", якія па дарозе добра-такі захмялелі ад незлічоных показкаў Шалкевіча. Жадаючы як найхутчэй развітацца, знакаміты акцёр і бард замоўк, і басавітыя й барытоністыя мужчыны раптоўна адчулі недахоп жыццёва неабходнай энергіі. Мясцовы паэт адразу рынуўся да адной са шматлікіх гандлёвых кропак. І толькі гэта басы й барытоны сталі шчыльнымі радамі ва ўтульным дворыку, як аднекуль вынырнула машына з міліцыянтамі. Абаронцы правапарадку былі настроены дужа рашуча. І тут адзін з "уніятаў" прызнаўся, што ён заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь, у пацвярджэнне чаго замахаў перад носам маёра чырвоным пасведчаннем, атрыманым нібыта з рук самога Шушкевіча. Маёр, як заваржаны, далікатна патрымаў у руках кніжачку з "Пагоняй" на вокладцы, учытаўся ў подпіс. Праз імгненне хлопцы ў пагонах узялі пад казырок і ад'ехалі. Мабыць, не схацелі ўсчыняць міжнародны канфлікт, баючыся, што Шушкевіч скліча новую сходку ў Віскулях, і горад Калінінград з кожным дзесятым жыхаром-беларусам адыдзе да Беларусі, паколькі некалі лічыўся ў складзе Вялікага княства Літоўскага.

Для таго, хто, прачытаўшы гэтыя радкі, скептычна пасміхнуўся, нагадаю больш блізкі па часе гістарычны факт. Пасля заканчэння Другой сусветнай вайны герой партызанскага руху ў маскоўскім штабе Панамарэнка змог падлабуніцца да Сталіна, і правадыр даў згоду на далучэнне нямецкага Кёнігсберга з навакольнымі землямі ды найбольш пацярпелай у барацьбе з нямецка-фашысцкімі захопнікамі Беларусі. Панамарэнка нібыта нават паспеў накіраваць у каралеўскі горад свайго ваяводу. Але Сталін нечакана раздумаў ашчаслівіць беларусаў доступам да марскіх портаў. У выніку Беларусь і па сёння застаецца сухаземнай краінай.

Па вечаровым горадзе ўтрох здзяйсняем імклівую вандроўку ў напрамку Шаховічавай гасподы. З вышыні моста цераз паўнаводны Прэгал галоўны завадатар каралевецкіх беларусаў паказвае месца, дзе неўзабаве паўстане помнік Францішку Скарыну. Непадалёку пахаваны аўтар "Усеагульнай гісторыі і тэорыі неба" знакаміты філосаф Кант. Яшчэ ў Мінску, даведаўшыся пра маю паездку ў Калінінград, блізкі мне па духу чалавек, адзін з любімых маіх беларускіх пісьменнікаў, наказваў перад дарогай: "Пакланіцеся там Імануілу". Але мае спадарожнікі спяшаліся на вячэру, і на магілу Канта я трапіў толькі на другі дзень, калі сумысна адстаў ад кампаніі і паўдня блукаў на адзіноце па пыльных калінінградскіх вуліцах.

На заключны канцэрт у старажытнай нямецкай кірсе, пераабсталяванай пад арганную залу, сабралася шматлікая й паважная публіка. Кожны, прымаючы падарунак "Ад родных ніў", называў дарагі сэрцу радзінны куток, прасіў перадаць паклоны сваякам. Случчына, Смаргонскі раён, Навагрудак, Гародня, Рэчыца, Нароўля... на сценах кірхі размясцілася цікавая выстава мастака з Віцебшчыны Крыцкага, які настала асеў у Калінінградзе.

Кіраўнік "Уніі" Кірыла Насаеў на ўзнесенай пад храмавыя скляпенні сцэне пасвяшчэннадзеіў з камертонам і — залай завалодала малітоўна-ўзвышаная мелодыя.

Упершыню ў жыцці прыходзіцца чытаць вершы ў храме.

Анекдатычна-песеннае нашэсце Віктара Шалкевіча сходу ўзяло ў палон нямецкую кірху з усёй яе шматвяковай прускай гістарычнай одумнасцю. Адно звыклыя да строгіх харалаў Баха арганныя лёхі знянацку папярхнуліся папулярнай на берагах Нёмна беларускай аўтарскай песняй, у якой міла распавядаецца, як "нейкія заспанцы папсавалі танцы, худыя, як цвікі, кажуць, што бальшавікі"...

Пасля канцэрта я, легкадумна праігнараваўшы запрашэнне капітана карабля-рэстарана "Віцязь" спадара Чарняўскага распачаць навігацыю па толькі што вызваленым з лёдавай вязніцы Прэгале, накіроўваюся спаўняць наказ — кланяцца Канту.

Вольная думка філосафа сягала да зор, а на зямлі ён заставаўся звычайным чалавекам, не пазбаўленым слабасцяў і амбіцый. Імкнучыся заняць прафесарскую пасаду ў Кёнігсбергскім універсітэце (славутым Альберціне, заснаваным ажно ў 1544 годзе), Імануіл Кант некалькі разоў пісаў слёзныя чалабітныя імператрыцы Елізавеце (у другой палове 18 стагоддзя, пасля Сямігадовай вайны, Кёнігсберг некаторы час уваходзіў у склад расійскай імперыі): "Найсвятлейшая, вялікадзяржаўная імператрыца, самадзержыца ўсяе Расіі, найлітасцівейшая ўладарніца і найвялікшая жонка!" Падпісваўся вялікі філосаф пад сваімі пасланнямі, укленчыўшы на ўсе чатыры: "Гатовы памерці ў сваёй найглыбейшай адданасці Вашай імператарскай вялікасці найвернападданнейшы раб Імануіл Кант".

Эпісталярныя прызнанні вялікага філосафа адбіваюцца на маёй ужо цэлых пяць гадоў суверэннай душы смутай і прыгнечанасцю. Каб пазбегнуць дэпрэсіі, я пачынаю напытваць у добразычлівых месцічаў месцазнаходжанне вуліцы Афіцэрскай, дзе ў кавярні "Дыяніс" мае адбыцца развітальная вячэра для ўдзельнікаў Дзён беларускай культуры. Шлях вядзе мяне паўз велічэзны (дваццаць два паверхі) змрочны палац з выбітымі шыбамі. Устрывожана пытаюся ў сустрэчных дзяўчат, ці не вынік гэта бамбардаванняў авіяцыі аб'яднанай Нямеччыны, што жадае вярнуць страчаны пасля Другой сусветнай вайны Кенігсберг? Аказваецца, люфтваффэ тут ні пры чым. Проста калінінградскія дойліды ўзвялі палац на месцы ўзарванага старажытнага замка, паленаваўшыся пралічыць глыбіню падмуркаў. У выніку выведзены пад дах гмах даў трэшчыну, і ўжо пятнаццаць гадоў недарэчнае збудаванне чакае, каб спатрэбіцца хіба на дэкарацыю для экранізатараў вядомага рамана Ф.Кафкі.

Непадалёк ад замка я нечакана набрыў на яшчэ адну мемарыю, звязаную з Кантам. На месцы, дзе колісь стаяў ягоны дом, устаноўлена шыльда з выслоўем філосафа: "Дзве рэчы напаўняюць душу ўсё новым і растучым захапленнем і багавейлівасцю па меры таго, як задумваешся над імі ўсё глыбей і даўжэй: зорнае неба нада мной і маральны закон ува мне".

Зорнае неба неаднойчы зачароўвала й мяне, і таму я пасля хвіліннага роздуму велікадушна вырашаю дараваць Канту ягоныя вернападданніцкія пісьмы.

Увечары, шчодра ўздаючы хвалу богу Дыянісу ў названай у яго гонар кавярні, мы не адчувалі сябе на чужой зямлі. Бо ад часоў Вітаўта й да нашых дзён жывуць тут людзі, што маюць гонар і няскоранасць у душы — беларусы ў каралеўскім горадзе.

**Міхась СКОБЛА**

ЛіМ ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь; калектыў рэдакцыі газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

*Газету рэдагавалі:*

*Х.Дунец* (1932-35)
*І.Гурскі* (1935-41)
*А.Куляшоў* (1945-46)
*М.Горцаў* (1947-49)
*П.Кавалёў* (1949-50)
*В.Вітка* (1951-57)
*М.Ткачоў* (1957-59)
*Я.Шарахоўскі* (1959-61)
*Н.Пашкевіч* (1961-69)
*Л.Прокша* (1969-72)
*Х.Жычка* (1972-76)
*А.Асіпенка* (1976-80)
*А.Жук* (1980-86)
*А.Вярцінскі* (1986-90)

**Галоўны рэдактар Мікола ГІЛЬ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
**Святлана БЕРАСЦЕНЬ, Міхась ЗАМСКІ, Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ, Жана ЛАШКЕВІЧ, Алесь МАРЦІНОВІЧ, Барыс ПЯТРОВІЧ** — *першы намеснік галоўнага рэдактара,* **Юрась СВІРКА, Віктар ШНІП** — *намеснік галоўнага рэдактара*

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**

**220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19**

**ТЭЛЕФОНЫ:**

**прыёмная рэдакцыі — 332-461**
**намеснікі галоўнага рэдактара — 332-525, 331-985**
**аддзелы:**
**публіцыстыкі — 332-525**
**пісьмаў і грамадскай думкі — 331-985**
**літаратурнага жыцця — 332-462**
**крытыкі і бібліяграфіі — 331-985**
**паэзіі і прозы — 332-204**
**музыкі — 332-153**
**тэатра, кіно і тэлебачання — 332-153**
**выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў — 332-462**
**навін — 332-462**
**мастацкага афармлення — 332-204**
**фотакарэспандэнт — 332-462**
**бухгалтэрыя — 268-640**

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*

*Рукапісаў рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*

*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*

**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856. Наклад 7332.
Нумар падпісаны 24.5.1996 г.
Заказ 2546/Г

П 123456789101112
М 123456789101112